BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141




# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ


1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.



№ 9(57) Кастрычнік 1998 October Год выд. 6.


У Беларусі бяда, няпэўнасьць, страх і п'янства... У Беларусі дыктатура і паліцэйскае насільле... У Беларусі запанавалі чужыя, амаль акупацыйныя сілы і парадкі...

Дэмакратычная, свабодалюбімая, незалежніцкая большасьць народу ня мае свайго лідэра, праведніка, прапаведніка. Народ маўчыць, народ церпіць, народ чакае... А тым часам хлусьня, хамства і нявер'е поўняць правінцыю і вялікія гарады... Выглядае, што над ціхай Беларусьсю лунае нейкая Божая кара... але за што?

Божа! Пашлі беларускаму народу Прарока, разумнага і сьмелага нацыянальнага лідэра, героя і пераможцу...

З ліста ў рэдакцыю "Беларускага Дайджэсту".





**Спадарыня Ірэна Каляда-Сьміроў —**

ведамая грамадзка-культурная і царкоўная дзеячка, старшыня фонду Ethnic Voice of America, руплівая працаўніца на ніве беларускага адраджэньня ды вялікая патрыётка свайго народу.

Дарагая Ірэна! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

## Апазіцыя паехала ў Швецыю

*А.Лукашэнка рыхтуе выбары*

**На гэтым тыдні ў Швецыю адправілася група беларускіх палітыкаў.**

Сярод іх — дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га скліканння Мечыслаў Грыб, Анатоль Лябедзька, Уладзімір Нісцюк, а таксама Уладзімір Анцулевіч з «Беларускай перспектывы», Сяргей Папкоў з БНФ, былы старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня. Мэта паездкі — вывучэнне вопыту правядзення выбарчай кампаніі ў мясцовыя органы ўлады. Задача выглядае дастаткова актуальнай, паколькі, як заявіла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, летам будучага года афіцыйныя ўлады Беларусі маюць намер арганізаваць выбары ў мясцовыя Саветы.

Дарэчы, 16 верасня Аляксандр Лукашэнка прыняў Лідзію Ярмошыну. Кіраўнік Цэнтрвыбаркама паінфармавала прэзідэнта аб некаторых аспектах маючай адбыцца кампаніі па выбарах у мясцовыя Саветы, тэрмін паўнамоцтва якіх сыходзіць у чэрвені 1999 года. Падчас сустрэчы абмяркоўвалася таксама агульная канцэпцыя праекта Закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў, які плануецца разгледзець увосень. Акрамя таго, прэзідэнту быў прадстаўлены праект Выбарчага кодэкса, які будзе рэгуляваць пытанні правядзення рэферэндумаў і выбараў.

*БелаПАН*

«НАВІНЫ»

## Новы прыступ інтэграцыі

**Расійская Дзярждума прапанавала неадкладна склікаць пазачарговую сесію Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі і запрасіць на яе прэзідэнтаў Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнку.**

Заяву на гэты конт Дума прыняла ў сераду. Думскія дэпутаты прапануюць разгледзець на сумеснай сесіі пытанне «аб мерах па ўмацаванні Саюза». Дзяржднума звярнулася да Барыса Ельцына з прапановай правесці тэрміновыя кансультацыі з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам па пытаннях пошуку сумесных шляхоў выхаду з крызісу.

Парламенцкаму сходу Саюза Беларусі і Расіі рэкамендавана да 10 кастрычніка 1998 года прыняць нарматыўныя акты, якія б мелі статус заканадаўчых рэкамендацыяў Саюза, «Аб увядзенні адзінага грамадзянства Саюза Беларусі і Расіі», «Аб дзяржаўным гімне, гербе і сцягу Саюза Беларусі і Расіі», «Аб парламенце Саюза Беларусі і Расіі і прамых выбарах у яго». Мяркуецца, што гэтыя законы потым будуць перададзеныя для зацверджання ў нацыянальныя парламенты.

**Б.П.**

## У Мінску ўведзены нормы водпуску прадуктаў харчавання

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-цэнтры Мінгарвыканкама, у сталіцы з 10 верасня зноў пачалі дзейнічаць нормы водпуску прадуктаў харчавання.**

Так, сёння ва ўсіх дзяржаўных магазінах аднаму пакупніку прадаюць не болей як 2 кг мясных і каўбасных вырабаў, не болей 2 адзінак птушкі, кансерваў — 2 бляшанкі, малака — 2 літры, тварагу — 0,5 кг, смятаны — 0,5 кг, сыроў цвёрдых, масла — 0,4 кг, алею — 1 літр, хлеба, мукі, цукру — 2 кг, круп — па кілаграму 3 сартоў, макаронных вырабаў — 2 кг, тытунёвых вырабаў — 5 пачкаў, яек — 2 дзесяткі. Па меркаванню спецыялістаў гарадскога гандлю, становішча ў гэтай сферы павінна нармалізавацца ўжо праз 2-3 тыдні.

## ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС У РАСЕІ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Новы прэм'ер Расеі Аўген Прымакоў у разгубленасьці. Выводзіць краіну з эканамічнага крызісу, гэта ня тое самае, што кіраваць агентамі КГБ. Тут патрэбны моцны розум, інтэлект, эканамічныя веды ды палітычная вырабленасьць і талент. У Расеі людзей з такімі здольнасьцямі вельмі мала, і яны, пераважна, у дзяржаўныя структуры не сьпяшаюцца. Гэта бяда Расеі (як і іншых пасавецкіх рэспублік), бо кіруюць палітыкай і эканомікай краіны ня тыя людзі, ня тыя таленты. На нашу думку крызіс у Расеі будзе ня толькі прадаўжацца, але і ўглыбляцца. Хіба што здарыцца нейкі цуд...

Агульная задоўжанасьць Расеі замежным крэдытарам выносіць каля 158 більёнаў даляраў, з якіх 91 більён выпадае на задоўжанасьць з часоў Савецкага Саюзу. Збанкрутаваная казна Расеі не ў стане выплачваць крэдытарам усталяваныя раты. Урад шукае новых пазыкаў, нават паслугоўваецца шантажом. Але заходнія крэдытары ўжо пацярпеўшы вялікія страты на расейскім рынку, з новымі крэдытамі для Расеі не сьпяшаюцца... хоць палітычны эстабліשмэнт заходніх разьвітых краін можа яшчэ раз спрабаваць дапамагчы расейскай эканоміцы. Але будзе гэта марная спроба. Пакуль расейцы самі не пачнуць думаць і працаваць, каб паправіць сваё жыцьцёбыцьцё, ніхто ім у гэтым не паможа. А самі яны змогуць зрабіць гэта толькі тады, калі вырасьце новае пакаленьне, на што патрэбна дзесяткі і дзесяткі гадоў.

А што-ж творыцца ў "саюзнай" Беларусі? А. Лукашэнка са сваёю антыбеларускаю клікаю ўцягнуў Беларусь у расейскую непоўнацэнную эканамічную і палітычную арбіту, і далей лезе туды, як вош у стары калгасны кажух. Пакуль Лукашэнка са сваімі "саўкамі" будзе прэзыдэнтам або губэрнатарам Беларусі, спадзявацца дабра беларускаму люду не прыхoдзіцца. Хоць што праўда, эканамічны і палітычны хаос у Расеі можа дапамагчы ацьвярэзіць розум абалваненым беларускім людзям... Беларускі рубель (і расейскі таксама) траціць вартасьць. Магазіны памалу пусьцеюць, людзі заметна бяднеюць і сьпіваюцца. Толькі сам Бог ведае, што рыхтуе заўтрашні дзень...



*Адам МИХНИК:*

*Народная Воля*

# "Лукашенко – это еще не вся Беларусь"

*Имя этого человека уже вписано в новейшую историю современной Европы. В его судьбе были годы пребывания в тюрьмах и работа в подполье, стремительный взлет и мировая слава, но, несмотря на обстоятельства, он всегда оставался верен себе. Многие поляки справедливо называют его "совестью Польши". Этот человек — главный редактор крупнейшей польской газеты "Газета Выборча" Адам Михник.*

**— Господин Михник, какой год сейчас, на Ваш взгляд, в Беларуси — 1988-й "по-польски" или 1991-й "по-российски"?**

— Очень тяжело ответить на такой вопрос, ведь сегодня ситуация у вас в корне другая. Если можно провести аналогии с Россией, то от польской ситуация очень отличается. Мы никогда не были в составе СССР и не были до конца советской республикой. К тому же в Польше всегда был силен костел, что очень важно. У нас не мог появиться такой персонаж, как Лукашенко, — он никогда бы не смог победить на выборах.

**— На сколько лет, на Ваш взгляд, отстала Беларусь от Польши?**

— Не существует, к сожалению, никакого учебника по трансформации общества, и никто из нас не знает, какой будет Польша через несколько лет; что будет в России; каким будет процесс интеграции Беларуси и России; какой станет Россия после Ельцина. Мы не знаем, каким будет итог всех этих коллизий. Нет механизма, который смог бы обозначить цифру отставания стран друг от друга.

**— Кто мы, белорусы, для Европы, для Польши? Отсталый народ? Жертвы диктата? Терпеливая нация?**

— Для Польши вы, прежде всего, соседи, мы много пишем об этом в газетах, обсуждаем ваши проблемы, сопереживаем. Для Европы, благодаря политике Лукашенко, Беларусь — неполноценное государство. Ваш президент делает большое количество ошибок. Я не знаю, почему он их делает, может быть, он таков по природе. А может быть, у него есть какой-то план вхождения в Кремль через Минск. Беларусь для Европы на сегодняшний день очень опасная точка. Ведь не случайно и российские демократы относятся очень осторожно ко всем этим планам присоединения Беларуси к России.

**— Кто виновен в том, что в центре Европы появилась диктатура — белорусский народ? Россия? Европа?**

— Я стараюсь быть очень осторожным в высказываниях об ответственности. Беларусь пока не самая горячая точка в Европе — есть Сербия, где процессы гораздо страшнее. У вас в стране не типичная диктатура — есть оппозиционные партии, выходят независимые газеты, у Лукашенко есть поддержка части населения. Для вашего режима нужно найти какую-то новую формулировку. Я назвал бы этот режим демократурой — это когда есть демократические институты, но они не функционируют, а находятся под контролем центральной власти. Лукашенко — это не демократ. Я в одной из статей назвал его колхозным Бонапартом. Это определение мне кажется наиболее точным, потому что ваш президент является продуктом советской системы с огромными амбициями.

**— Вам не кажется, что белорусы далеки от Европы потому, что не было в белорусской элите людей, которые были бы близки к Адаму Михнику, Вацлаву Гавелу, Андрею Сахарову?**

— Мне кажется, что дело не только в этом. Дело не в нескольких, пусть даже очень прогрессивных личностях. Даже в Чехословакии и Венгрии не было такого массового движения, какое было в Польше во времена "Солидарности".

У нас не было советского режима — он был полусоветский-полупольский. Церковь в Польше всегда оставалась самостоятельной. Все было по-другому. Однажды, во времена перестройки, я был в Москве. Тогда еще существовал Верховный Совет СССР. На квартире Анатолия Собчака я встретился с белорусским композитором или музыкантом (не могу вспомнить сейчас его фамилию), который был депутатом Верховного Совета. Я спросил у него, что будет с Беларусью, с суверенитетом и так далее. Он мне ответил недоуменным вопросом: "А как может прожить Беларусь без России?". В Польше так никто никогда бы не сказал.

**— В Польше существовал сильный антирусский комплекс?**

— Да, это была другая крайность, но я никогда не поддерживал антирусских настроений. Однажды, выступая по телевидению, я сказал, что считаю себя настоящим антисоветским русофилом. После этого телефон "раскалился" от звонков возмущенных читателей. Некоторые из них мне долго не могли простить слова "русофил". Белорусские демократы, на мой взгляд, допустили серьезную ошибку, когда пытались провести очень быструю белорусизацию. Ведь большинство граждан были русскоязычными, и получилось, что это действие было направлено против них. Украинцы оказались прагматичнее, растянув этот процесс в русскоязычных регионах — в Донбассе, Харькове. В конце концов Лукашенко смог стать президентом на противодействии белорусизации.

**— Как Вы расцениваете нынешний кризис в России?**

— Это полный абсурд. Я в Москве слушал Кириенко, он показался мне умным, современным, прагматичным политиком и, что самое главное, — несоветским. Ведь Черномырдин — это типичный советский хозяйственник. "Газпром — наш дом!". Я очень, очень боюсь этой ситуации.

**— Как Вы думаете, белорусский режим продержится долго?**

— А что значит "долго"? Такой режим может существовать и пять, и десять лет. Я помню конец 81-го года, когда только установилось военное положение. Мы все были убеждены, что режиму отпущен месяц или два. Был популярный лозунг: "Зима — ваша, весна — наша!". Я тогда написал статью "Долгий путь", где говорил, что это может продлиться очень долго. Я оказался прав — это продлилось долгих девять лет.

**— Если бы у Вас была возможность обратиться к белорусам, что бы Вы им сказали?**

— Я хотел бы порекомендовать вам быть осторожнее. Ведь у вас уже был один "старший брат", и не стоит приобретать себе еще одного, пусть даже и Польшу. Поэтому мне бы не хотелось давать какие-то советы и заниматься нравоучениями. Могу лишь сказать, что в лице поляков вы имеете добрых друзей. Я уверен, что у вас будет все лучше и лучше, а поляки хорошо знают, что Лукашенко — это еще не вся Беларусь.

**Николай ХАЛЕЗИН.**

Варшава — Минск.

## Суд над "Нашай Нівай" — гэта суд над беларускай мовай!

**У апошні час у нашай краіне ўзмацніўся наступ антыдэмакратычных, антыбеларускіх сілаў на ўсялякія правы дэмакратыі, нацыянальнай свядомасці і на асноўныя правы чалавека.**

**У гэтым рэчышчы можна разглядаць двухгадовы наступ на адзіны ў краіне беларускамоўны ліцэй і спробы зачыніць газету "Наша Ніва". Прычым повадам для чарговай забароны недзяржаўнай дэмакратычнай газеты з'яўляецца класічны варыянт беларускага правапісу, паводле якога ў пачатку XX стагоддзя пісалі Максім Багдановіч, Якуб Колас і Янка Купала. З мэтай поўнай русіфікацыі Беларусі бальшавікі двойчы ў 1933 і 1957 г.г. скажалі яго правілы на тэрыторыі БССР. Аднак за межамі савецкай Беларусі гэты правапіс паспяхова ўжываўся, і ўжываецца па сённяшні дзень.**

**Выканкам Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады выказвае рашучы пратэст і лічыць, што прэтэнзіі сённяшняй улады да мовы "Нашай Нівы" з'яўляюцца грубым парушэннем канвенцыі аб грамадзянскіх і палітычных правах да якіх далучылася і Беларусь. Забарона прыватнай, недзяржаўнай газеце, яе чытачам і падпісчыкам карыстацца абранай імі формай роднай мовы з'яўляецца яскравым прыкладам чарговага парушэння свабоды слова і права на атрыманне інфармацыі у нашай краіне.**

**Грамада заклікае ўсе дэмакратычныя партыі і рухі Беларусі, а таксама міжнародную супольнасць выказаць рашучы пратэст супраць гэтых дзеянняў беларускага ўрада.**

***Выканкам БСДГ.***

**Нам паведамляюць, што газэта "Наша Ніва" судовую справу выйграла. Справядлівасьць ў Беларусі яшчэ не зьвялася. Жадаем посьпехаў!**

## CONGRATULATIONS!



**Сафія Гэлена Прускі, дачка Веры і Міколы Прускіх нядаўна закончыла Western Michigan University з дыплёмам Bachelor of Arts in Social Psychology and Minor of Art History.**

**Сафія рыхтуецца да далейшых студыяў у пачатку наступнага году ў атрыманьні Master's Degree in Sociology.**

**Сям'я і прыяцелі, з Божай дапамогай, жадаюць Сафіі ўсяго найлепшага.**

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ – ЧАСЦІНКА НАШАГА ЖЫЦЦЯ

***У культурным жыцці краіны падзея — на чытацкую арбіту запушчаны новы, шосты па ліку том універсальнай Беларускай энцыклапедыі***

—*Народная газета*

У Беларусі, здаецца, адны з першых сярод краін СНД зразумелі, што словы "суверэнная" і "незалежная" толькі тады здольны нешта азначаць, калі будуць падмацаваны нароўні з нацыянальнай сімволікай і гімнам яшчэ адным атрыбутам дзяржаўнасці — нацыянальнай універсальнай Энцыклапедыяй. Крытэрый асаблівай, выключнай ролі гэтай кнігі ў жыцці грамадства — аб'ектыўная, пазбаўленая прэтэнцыёзнасці, прадузятасці і палітыканства адзнака духоўнай скарбніцы чалавецтва, у дадзеным выпадку, зразумела, з акцэнтам увагі да Беларусі.

Менавіта такі падыход да важнай дзяржаўнай справы, што ўзваліў на свае плечы рэдакцыйны калектыў аднамыснікаў, які пасля П.Броўкі і І.Шамякіна, думаецца, усур'ёз і надоўга ўзначаліў таксама вядомы паэт і публіцыст Г.Пашкоў, літаральна з першых крокаў знайшоў падтрымку з боку кіраўніцтва краіны.

І вось на маім рабочым стале — шосты том фундаментальнага выдання... Так, ужо шосты. А калі ўзгадаць, што задумана выдаць усяго 18 тамоў, то можна з задавальненнем канстатаваць факт: адказная і пачэсная задача нашымі энцыклапедыстамі на трэць выканана. У вытворчасці — чарговыя два тамы.

Але вернемся да шостага, які толькі пабачыў свет і яшчэ пахне друкарскай фарбай...

Знешне "шосты" падобны на сваіх старэйшых "братоў", аднак гэтая асаблівасць ніколькі не прыніжае яго арыгінальнасці і непаўторнасці, наадварот, мне здаецца, замацоўвае як у падпісчыкаў, так і пакупнікоў упэўненасць, што рэдакцыйным калектывам абраны той адзіны і правільны шлях, калі нейкая альтэрнатыва і розныя выпадковасці выключаны. Гэта тычыцца не толькі вонкавага, скажам так, тэхнічнага боку справы, але і ўнутранага, звязанага з сэнсавым напаўненнем артыкулаў, дакладнасцю фактаў і аб'ектыўнай адзнакай тых ці іншых падзей, з'яў і асоб.

Чым жа ўсё-такі адметны чарговы том памянёнага выдання? Думаецца, перш за ўсё варта звярнуць увагу на тое, што шосты том атрымаўся надзвычай змястоўным і адначасова кампактным, увабраўшы ў сябе каля 4 тысяч артыкулаў і больш як 1000 ілюстрацый, партрэтаў і карт (пераважна каляровых), ахапіўшы такім чынам дыяпазон паняццяў ад "дадаізма" і да "застава" ўключна.

Бездакорнае мастацкае афармленне выдання сёння, на маю думку, не мае аналагаў у кніжнавыдавецкай справе не толькі на Беларусі, але і ва ўсіх без выключэння краінах СНД.

Самы патрабавальны і пераборлівы чытач знойдзе тут рознабаковыя і багатыя матэрыялы па такіх важных тэмах, як другая сусветная вайна, другі фронт, цікавыя звесткі пра Данію, Дамініканскую Рэспубліку, Егіпет; пра сусветна вядомых людзей, такіх, як Дантэ, Драйзер, Дастаеўскі, Дакучаеў, Жаліо-Кюры, Даргамыжскі, Дамінга, Жукаў, а сярод іх — беларусаў: Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Язэпа Драздовіча, Міхася Забэйду-Суміцкага, Мікалая Дворнікава і іншых.

Артыкулы "Дзяржава", "Дзяржаўнасць" даюць панарамнае ўяўленне пра сістэмнае разгалінаванне дзяржаўных устаноў, інстытутаў, калектываў, службаў, арганізацый, званняў, прэмій і г.д.

Безумоўна, можна бясконца называць і цытаваць тыя ці іншыя вартасці разглядаемага тома, кожны артыкул якога ўжо сам па сабе ўяўляе арыгінальную каштоўнасць. Такое адчуванне, калі разгортваеш том на любой старонцы, што трапляеш на добрую мастацкую прозу — захапляе чысціня стылю, яснасць, лаканізм, карацей, амаль той самы выпадак, калі словам цесна, а думкам прасторна.

І яшчэ адна дробязь, якая, зрэшты, гаворыць шмат аб чым: чарговыя тамы універсальнай Беларускай энцыклапедыі не залежваюцца на паліцах кнігарань, таму лепей не цягнуць з набыццём чарговага тома, — упэўнены (тут ужо даверцеся вопыту бібліяфіла са стажам), ніякая букіністычная крама з цягам часу не зможа вам у гэтым дапамагчы. Тое ж, што нацыянальная Энцыклапедыя становіцца сёння неад'емнай часцінкай нашага жыцця, — відавочна.

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ.**

## Медалісты выбіраюць беларускую мову

**Берасцейшчына з прычыны яе геаграфічнага становішча, асаблівасцей гістарычнага развіцця і пры сённяшняй палітыцы двухмоўя, здавалася б, не самы прыдатны рэгіён для ўмацавання пазіцый беларускай мовы. Але ўжо самыя першыя вынікі ўступных экзаменаў у Брэсцкі дзяржуніверсітэт засведчылі, што ў нашай нацыянальнай мовы тут неблагая будучыня. Сярод абітурыентаў філалагічнага факультэта найбольш тых, хто абраў спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура", "беларуская мова, літаратура і гісторыя", "англійская і беларуская мовы" (конкурс тут складае ад двух да чатырох з паловаю чалавек на месца). І ў іх ліку — 46 выпускнікоў-медалістаў. Зрэшты, і на іншых аддзяленнях і факультэтах вельмі многія выбралі пісьмовы экзамен па беларускай мове.**





*Васіль ГРОДНІКАЎ*

# Мужыкі-сталічнікі, дазвольце даць вам адлуп,

## або Чаму некаторыя лідэры з кепскім зрокам набіваюцца вяскоўцам у павадыры

*Народная Воля*

Больш за дзесятак лідэраў розных партый, рухаў, прафсаюзаў, сабраўшыся на адну старонку ў "Белорусской газете" (13 ліпеня г.г.), ледзь не наперабой выказвалі свае запаветныя думкі "о положении в сельском хозяйстве, необходимости и направленности реформ". Накінуўся я на гэтую чытаніну, як галодны на хлеб, а пасля аж жахнуўся: хто — у боб, хто — у гарох! І нешта падказала мне зняць грэх з душы за працяглае маўчанне па гэтай тэме, у якой жыву, "купаюся". Таму што не мог ужо ўтрымацца: жаўлакі на скронях хадуном хадзілі, рука па калене б'е, брыдкі сялянскі лексікон на язык лезе... І вырашыў я гэтым панам даць адлуп. Ну, адлуп не адлуп, а паглядзець на тыя "положения" "необходимости" і "направленности" са свайго вясковага падворку. Праўда, хоць і не раўня мае тытулы тытулам тых мужыкоў-сталічнікаў і пагорак мой не дужа высокі, чым іхнія званіцы, затое я бліжэй за іх да "необходимости и направленности реформ", пра якія, рассеўшыся, пэўне, на мяккіх канапах, баяць сталічныя павадыры.

Седзячы на прызбе і пыхкаючы самакруткай (танныя цыгарэты прадаюць у час уборкі толькі механізатарам), буду баяць я і вам, і тым панам пра тое, што непакоіць нас, вясковых жыхароў. Можа, і пачуюць тыя лідэры. А калі не пачуюць, то і на гэта ёсць "аб'ектыўныя" прычыны: званіцы нашых павадыроў звычайна такія высокія, што адтуль можна толькі слухаць, а не чуць...

### Якая птушка, такі і галасок

Дык каму ж першаму даць адлуп? Таму, хто — у боб, ці таму, хто — у гарох? Кампанія гэтая падзялілася на два "направления". Адны — за калгасы і саўгасы, але з навядзеннем адпаведнай касметыкі. Другія — за рашучыя змены. Праўда, ні ў адных, ні ў другіх амаль нічога не гаворыцца аб "направлениях", аб тым, што ж трэба такое радыкальнае зрабіць, каб нарэшце зняць з дзяржавы жабрацкую торбу з надпісам: "Харчовая праграма". Канешне, на адной газетнай паласе гэта табе не на калгасным полі, дужа не разгонішся. Але ж...

Давайце зірнем на пазіцыю тых, продкі якіх некалі з рознымі "галавакружэннямі" правялі славутую на ўвесь свет калектывізацыю, — камуністаў. Справядліва, на мой погляд, сказаў лідэр расійскага "Яблыка" Р.Яўлінскі: "Там, дзе шмат камуністаў, там мала хлеба". І вось як мяркуе адзін з лідэраў ПКБ, вучоны чалавек Васіль Новікаў: "Толькі што мы верылі і будавалі адно, а сёння разварочваемся на 180 градусаў і гаворым: усё аддаць!"

Цікавая думка. Вось знайшоўся б тады, падчас усеагульнай калектывізацыі, такі разумны чалавек і сказаў бы: "Браточкі, што ж вы робіце? Што ж вы пад адзін грэбень усіх і ўсё заганяеце ў калгас? Што ж вы ўсіх заможных і працалюбівых сялян пайменавалі кулакамі, адну палову з іх топіце ў крыві, другую — выкідваеце з дзецьмі ў глыбокія снягі Сібіры і тундры? Што ж вы ліквідоўваеце кулацтва як клас, а разам з ім пускаеце на згубу не толькі зямлю, але і лепшыя якасці селяніна — працавітасць, зацікаўленасць у сваёй працы, дбайнасць пра зямлю і любоў да яе?"

Так пачынаўся той канец, які неадступна крочыў разам з бальшавікамі-камуністамі на працягу ўсяго "прагрэсіўнага шляху развіцця сацыялістычнай сельскай гаспадаркі". Сёння і камуністы і іх спачувальнікі з ліку "арцельных актывістаў" — сённяшнія вясковыя пенсіянеры і маладая "атава" — прыхільнікі "камуністычнага ўкладу вясковага жыцця" ясна бачаць адно: шлях быў выбраны няправільна. І няхай сабе некаторыя артадаксальныя вучоныя і сёння яшчэ сцвярджаюць, што ў свой час калгасы адыгралі, асабліва ў час вайны, сваю станоўчую ролю, — скажу прама: гэта прапагандысцкія выкрутасы з мэтай апраўдаць памылковую і надзвычай згубную палітыку камуністаў у вёсцы. Былі, вядома, і бязбедныя гады, але заўсёды прадукцыя сельскай гаспадаркі па сабекошце намнога перавышала сусветна дапушчальныя нормы затрат на яе вытворчасць.

І сёння адзін з лідэраў беларускіх камуністаў В.Новікаў не стамляецца сцвярджаць: "Тое, што прыватная ўласнасць — панацэя ад усіх бедаў, гэта, выбачайце, чарговае глупства".

Нагадаю, хоць, як кажуць, гэта і сякера пад лавай, але пры дапамозе гэтага "глупства" землеробы-землеўладальнікі на Захадзе паставілі справу так, што і раней, і цяпер не ведаюць, куды збываць мяса, малако, хлеб... (От, нам бы іх клопаты!) Ад гэтага "глупства" ў іх каровы, што даюць больш за нашых разы ў тры малака, выбракоўваюцца як нізкадойныя і здаюцца на мясабойню. Бычкі і парсючкі нагульваюць такое прыбаўленне ў вазе, што нашым калгасным худобам і не снілася. Зямля родзіць у двары разы больш умалотныя ўраджаі, чым нашы бяскрайнія арцельныя нівы. Там — новыя тэхналогіі, высокая культура земляробства і жывёлагадоўлі, здабыткі навукі, уласная зацікаўленасць. А ў нас да сённяшняга дня правяць баль старшынёўскі і брыгадзірскі мат-перамат, страх калгасніка перад начальствам, неахайныя адносіны да працы. Вечная нястача грошай, угнаеннаў, тэхнікі, культуры сельскагаспадарчай вытворчасці, як дрыгва, засмоктваюць вёску на самае дно.

Дык там, значыцца, глупства, а мы — самыя разумнейшыя на свеце? Давайце, нарэшце, перастанем цямніць і скажам адкрыта: не, гэта там — "галавасцікі", а мы — "вушасцікі". Там галавой думаюць, а мы толькі вушамі, гэта значыць, слухаем і робім тое, што нам скажа начальства на рэспубліканскіх селектарных нарадах, з экранаў тэлевізараў, з радыёперадач і нават з верталётаў, нарэшце, з тэлефоннай трубкі ад раённай "вертыкалі".

Ну, давайце ўспомнім, як камуністы спрабавалі быць больш разумнымі. Памятаеце, як калісь стымулявалі вёску да большай вытворчасці прадукцыі? То ўзбуйнялі, то драбнілі калгасы, потым прыдумалі саўгасы, плацілі натурай, потым аднымі "палачкамі", затым грашыма, грашыма ўперамешку з натурплатай, брыгады драбнілі на звенні, уводзілі гасразлік, саўгасы ператваралі ў калгасы, адпускалі ланцужок "свабоды", заганялі ў рынак, спрабавалі акцыяніраваць...

Але гэтага, выходзіць, мала. Камуніст В.Новікаў прапануе вышэйшаму начальству: "Няхай бы паспрабавалі праводзіць эксперыменты ў розных гаспадарках з розным узроўнем развіцця вытворчасці, каб вызначыць, што ўсё-такі лепш".

Ну, браточак вы мой, камуніст! Колькі ж можна эксперыментаваць? Гэта ж усё-такі не мышы і не жабы, а жывыя людзі! Вы ж вучоны, вы ж гэта павінны ведаць. Але, заблудзіўшыся ў разважках, спадар В.Новікаў прыходзіць да "арыгінальнай" высновы: "Што датычыцца сённяшняга дня, — гаворыць ён, — калі невядома, што мы пабудавалі і што будаваць далей, на мой погляд, трэба захаваць тое, што ёсць. Як кажуць, "не до жиру, быть бы живу".

Вось, аказваецца, што сёння хвалюе перш-наперш камуністаў: філасофскае разуменне таго, што ў палітычным аспекце мы пабудавалі: рынкавы сацыялізм, дзікі капіталізм, памяркоўны капіталізм з цывілізаванай фізіяноміяй і сацыяльным выглядам?.. Вось вызначым, аказваецца, палітычны шлях і тады... Тады ўжо накормім краіну! Тады і каровы будуць ахвотна і многа даіцца, жывёла нагульваць добрую вагу, перастане здыхаць скацінка, мужыкі перастануць піцькрасці, калгасы палеткі закрасуюцца стопудовымі ўраджаямі. Галоўнае, якой дарогай вы ідзяце, таварышы?! Але, як той казаў, не спяшайся, каза, у лес: ваўкі твае будуць!

Спадар В.Новікаў яшчэ лічыць вар'яцтвам "выводзіць сёння сельскую гаспадарку на свабодныя рынкавыя рэйкі". Але чаго вартая яго наступная заўвага: "Тыя, хто сёння гаворыць аб тым, што калгасы і саўгасы — учарашні дзень, нічога не прапануюць узамен!" І тут жа раіць: "Сёння трэба зрабіць так, каб не развалілася тое, што ёсць. Жыццё пакажа, што эфектыўней".

А далей яшчэ цікавей. "Накармілі фермеры краіну? Ва ўсякім выпадку сёння — не, гэта толькі прэса пастаралася раздуць усялякія гісторыі пра іх... Але чалавека трэба зрабіць уласнікам і не проста ўласнікам, а ўласнікам па яго працаўкладанні (я не разумею. А вы? — **В.Г.**). Каб чалавек быў зацікаўлены ў сваёй працы, каб ён быў гаспадаром з вялікай літары".

"Канкрэтных" прапаноў — пад самую завязку. Лозунгаў і заклікаў — гэта, мусіць, пане-камуністы па звычцы, — кінута таксама не шкадуючы. І, як гэта часта бывае ў палеміцы, пераблытана капуста з іржышчам. Адным словам, як у тым каламбуры: на тое лета, пасля абеда, гэткаю парою.

Не буду вас, паважаныя чытачы, доўга мучыць цытатамі камуністычнага лідэра, а толькі прывяду канцоўку яго роздуму: "Навука павінна быць флагманам! Яна павінна вызначаць: куды і як ісці... А што датычыцца наогул сітуацыі ў сельскай гаспадарцы, то не такая яна ўжо ахавая, каб гаварыць, што наступіў канец свету. І потым жа канец — гэта пачатак нечага..."

Ну, як той казаў, прыехалі, злазь! Што тут скажаш?! Андрэй Кузьму — родны Хведар...

Колькі было эксперыментаў, спроб, колькі з'елі навукова-даследчыя інстытуты грошай, каб паказаць дарогу сляпым і неразумным сялянам! Колькі з'ездаў, пленумаў, партыйна-гаспадарчых актываў і розных іншых "калектыўных галоў" вызначалі "основные направления" развіцця сельскай гаспадаркі па калісьці няправільна вызначаным шляху да камунізму! Але і гэтага мала. Аказваецца, па-камуністычнаму шлях яшчэ канчаткова не вызначаны і яго зноў трэба шукаць метадам спроб і памылак, эксперыментамі і вопытамі над людзьмі. Так і хочацца спытаць: паночак, а калі ж нашым людзям можна за стол сесці і добра паесці? І чуецца ў адказ: пачакайце, ганчар у чарапку есці варыць!

### Сёрбай юшку — на дне гушча!

Мне надзвычай цікава было ведаць думку старшыні Беларускага савета калгасаў Антона Юнцэвіча, саюз якога мае не апошняе дачыненне да той палітыкі, якая давяла свае арцелі "да ручкі". Якой жа ён, яго саюз і "саюзнікі" бачаць перспектыву калектыўнай гаспадаркі?

"Іх (калгасаў. — **В.Г.**) нармальнае далейшае развіццё магчыма толькі пры правільных узаемаадносінах вытворчасці з цаной на рэалізацыю калгасамі прадукцыі. Цана павінна стымуляваць вытворчасць".

Ну, а калі не стане стымуляваць? Было ж такое і неаднойчы!

Зноў чарговы эксперымент: павялічыць цану на сельскагаспадарчую прадукцыю. Я разумею, што сённяшні непарытэт цэн — гэта быццам намыленая вяроўка на шыі калгасаў і саўгасаў. Але, дапусцім, узвінцілі цэны да ўзроўню прамысловых тавараў. Каўбасу, якую так любіць наш электарат, паднялі да 700—800 тысяч, мяса — да паўмільёна, малако — трыста тысяч за літр, бульба — столькі ж, хлеб па сто пяцьдзесят тысяч. Ну, і што з таго? На першым часе калгасы і саўгасы вольна ўздыхнуць, набудуць новую тэхніку, паліва, угнаенні, хімікаты, насенне. Магчыма, дзе-ні́дзе пяройдуць на найноўшыя тэхналогіі, значна павялічыцца зарплата калгаснікаў. А як жа быць пенсіянерам? А бюджэтнікі, асабліва настаўнікі, медыкі, работнікі культуры, сацыяльнай сферы і паслуг з іхнімі мізэрнымі зарплатамі? Ці не будзе гэта такім жа "шахцёрскім" эксперыментам, што некалі выклікаў у Расіі ланцуговую рэакцыю па росце і дысбалансе цэн і зарплаты? Хто бліжэй да міскі, той і сёрбае? Значыць, па А.Юнцэвічу, мы, падаткаплацельшчыкі, акрамя бюджэтных уліванняў у калгасна-саўгасную эканоміку, павінны падтрымліваць яе яшчэ коштам харчовых тавараў? Не, браточкі, хто не ўтрымаўся за грыву, таму і хвост не дапаможа!

Да таго ж, што надзвычай важна, застануцца незапатрабаванымі галоўныя фактары зацікаўленасці селяніна ў павелічэнні вытворчасці — уласны інтарэс і свабода. Без іх, я ўпэўнены, па-ранейшаму на вёсцы будуць піць-гуляць, красці (магчымасці будуць расці ў адпаведнасці з ростам даходаў і забяспечанасцю гаспадарак), асабістай зацікаўленасці, асабліва ў самога калгасніка, як не было, так і не будзе. Будзе панаваць нязменна галоўны і, здаецца, вечна жывучы (пакуль існуюць калгасы) прынцып: "Тваё, маё — калгаснае".

Спадзявацца на тое, што калі ў калгасах будуць больш плаціць, то тады чалавек стане больш працаваць, — дарэмная надзея. Калгасы і саўгасы, іх арганізацыя працы, іх галоўны прынцып, іх антысялянская ідэалогія — вось той глыбокі роў, які адгароджвае "сваё" ад "нашага", а "наша" — ад зацікаўленай і свабоднай стваральнай працы, ад ініцыятывы, старання, перажывання за вынікі ўласных намаганняў. На жаль, у гэтых якасцях шмат хто з павадыроў не бачыць вышэйшага сэнсу, па-бальшавіцку спадзеючыся на прынцып: не хочаш — прымусім!

Я пераканаўся ў адным: пакуль чалавек (я маю на ўвазе толькі вясковага жахара) будзе

ведаць і разумець, што "ўсё вакол калгаснае, усе вакол — маё", ён будзе калгасным парабкам, "вінцікам", "пешкай", безынiцыятыўным і абыякавым выканаўцам распараджэнняў вышэйшых "настаўнікаў". І каля гэтай ужо "перафарбаванай" кармушкі зноў будуць жыраваць, як быкі на бровары, усякія звеннявыя, памочнікі брыгадзіра і брыгадзіры, рахункаводы і іх памочнікі, розны іншы "чынавенскі" люд. І з'ядуць усё, і прап'юць, і параскрадаюць, і прафукаюць... Астатняе, што застанецца, пакінуць калгасным парабкам, параіўшы напаследак: "Сёрбайце юшку — на дне гушча!".

Няўжо гэта цяжка зразумець, пралічыць, прадугледзець, ведаючы (спадзяюся) сутнасць вясковага жыцця і яго філасофію, адносіны начальства да сялян і сялян да начальства, "свайго" і "нашага". Думаеце, калі калгаснік наб'е кішэні грашыма, то ў яго зменіцца тая філасофія адносін да працы ці стане больш зацікаўленым яго погляд на калгас? Не, і яшчэ сто разоў не! Калгас быў, ёсць і будзе крыніцай, дзе можна, не з'язджаючы з наседжанага месца, зарабіць такуюсякую капейку, украсці на выпіўку, папоўніць свае прыпасы і працаваць, "валяючы ваньку". Таўкач заўжды муку пакажа!

Пры сустрэчы з аграрнікамі і ў прыватнай перапісцы з імі мяне спрабуюць пераканаць, што, маўляў, ліквідаваўшы непарытэт цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю, справы пойдуць значна лепш. Згодзен, пойдуць лепш, але гэта не вырашае застарэлую, а таму і звыклую праблему, — сабекошт вырабляемай прадукцыі. Выкажу думку, якая, спадзяюся, засядзе ў горле не аднаго аграрніка. А ці варта, скажам, павялічваць закупачныя цэны на малако, калі гаспадаркі не жадаюць, не могуць (або ёсць іншыя прычыны) паляпшаць дойны статак, павялічваць такім чынам удоі ад кожнай каровы да сярэднееўрапейскага ўзроўню? Ці будзе стратным малако, калі яго будуць надойваць ад каровы не па 2—3 тысячы літраў у год, як цяпер, а, скажам, па 7—8 тысяч літраў? А ўкараніўшы галандскую тэхналогію па адкорме тых жа свіней, пры якой прыбаўленне ў вазе ў 2,5 раза большае, на столькі ж скарачаюцца тэрміны адкорму. А з хлебам, бульбай, гароднінай? Хіба наш кліматычны пояс чымнебудзь асаблівым адрозніваецца ад польскага, літоўскага, дацкага, нямецкага?.. Цяжка?.. А як жа! Цяжка! Але трэба! Увесь свет бярэ сёння не колькасцю, а якасцю, якая потым ператвараецца ў колькасць. А ў нас па-ранейшаму, вобразна кажучы, зайцы поле гнояць ды коні такія дагледжаныя, што на выгане вароны на спіны садзяцца.

Усё гэта, асмелюся сцвярджаць, амаль усім нашым калгасам і саўгасам (дапускаю толькі рэдкія выключэнні) не пад сілу. Гэта пад сілу толькі прыватнікам, людзям, якія пакладуць на гэтыя ноу-хау ўласныя, кроўныя грошыкі. А тыя сродкі, што дае арцелям дзяржава "на падтрымку штаноў", яна ж і кантралюе — толькі для таго, каб не спаўзлі ні "штаны", ні, крый Божа, "споднікі". Пры такім вядзенні спраў у сельскай гаспадарцы мы заўсёды будзем шчаслівыя на ўзроўні адпаведнага выслоўя: "Ёсць хлеб і да хлеба, то дзякуй Богу!" А ці ж гэта тая планка, да якой трэба цягнуцца? Калі ж справы будуць ісці так або прыкладна так, то нашы дзеці і ўнукі будуць толькі тое і рабіць, каб зарабляць грошы для нашых арцеляў на тое, каб у іх не спадалі ні "штаны", ні "споднікі". А дзяржава і надалей будзе "стаяць на вушах" у час сяўбы, касьбы, жніва, уборкі бульбы, зімоваастойлавага перыяду, аддаючы шмат сіл і трыльёны рублёў на падтрымку грамадскага сектару. І не будзе ніякай увагі прыватнай частцы, якая ўжо сёння дае амаль палову прадуктаў харчавання.

Чамусьці ў галаву прыйшло параўнанне: Анціп замест таго, каб схадзіць у лазню, трэцца аб вушак, апраўдваючыся, што дужа чухацца любіць. Што, дзяржаве няма дзе больш сіл прыкласці, а толькі і клопату пра надоі, прывагі ды барацьбу за хлеб? Даручыце, панове, гэта селяніну. Ён без вашай дапамогі і падказак зробіць усё найлепшым чынам.

Я не думаю, што спадар А.Юнцэвіч гэтага не ведае ці не разумее. І тым больш для мяне незразумелым з'яўляецца наступны тэзіс: "Эканоміка калгасаў не можа больш нармальна існаваць ва ўмовах надзвычай жорсткага адміністрацыйнага ўціску (А пры проста жорсткім або блізкім да таго, выходзіць, можа? — **В.Г.**). Эканамічная самастойнасць гаспадарак па законах рынкавай эканомікі — вось найбольш кароткі шлях выхаду з сённяшняга крызісу на вёсцы".

А памятаеце, што сцвярджаў спадар-камуніст В.Новікаў: "Я лічу, што гэта вар'яцтва — выводзіць сёння сельскую гаспадарку на свабодныя рынкавыя рэйкі".

Цяжка сказаць, хто з іх — у боб, хто — у гарох, але бачу, што абодва, бедалагі, заблудзіліся: дарога недзе блізка, ды туман густы.

Але спадар старшыня А.Юнцэвіч працягвае ісці па "цаліку": "Калгасу патрэбен сапраўдны гаспадар (Значыць, сённяшнія старшыні калгасаў, якіх аб'ядноўвае Саюз, ужо гаспадары не сапраўдныя. — **В.Г.**). Ім можа стаць арандатар-кіраўнік на правах уласніка, скажам, на 10 год, з жаданнем працаваць на вышэйвыкладзеных умовах (г.зн. пры павышэнні цаны на сельскагаспадарчую прадукцыю і пры рынкавых адносінах. — **В.Г.**).

Ну, вось табе і на! Не кіем, дык палкаю — адной паганялкаю! Тут, браточкі, той выпадак, што фурман, можа, і добры, ды коні не вязуць.

## Куды шыя — туды вочы

Але больш за ўсё мяне пацешыў старшыня Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці Анатоль Нятылькін. Апавядаючы пра сваю вандроўку ў Расію, ён расказвае, што, едучы "ад Масквы да Ленінграда (Санкт-Пецярбурга. — **В.Г.**), праязджаючы міма Бранска, Арла, я не бачыў ніводнага засеянага поля. Разумееце, ніводнага! Так, на агародах, у вёсках яшчэ нешта расце, аднак калгасныя палі зараслі травой. Але як толькі мы пераехалі граніцу, зусім іншая справа — воку прыемна паглядзець".

Не ведаю, ці быў дзе яшчэ, акрамя Расіі, спадар А.Нятылькін, але, мусіць, ён не падумаў пра тое, што замест 60—80 цэнтнераў збожжа з гектара мы збіраем толькі 25—27. Бульбы з гектара выбіраем 100—120 цэнтнераў замест 300—400. Надоям ад каровы ў 2,5 тысячы літраў малака радуемся, як дзеці (козы даюць больш!). Сена да новага выпасу шмат у якіх гаспадарках не хапае, часам цялят выменьваюць на гнілую салому, каб не даць да вясны паздыхаць жывёле. Не пароду паляпшаем, а выконваем распараджэнне прэзідэнта павялічыць на 10 працэнтаў пагалоўе калгаснага статку, выменьваючы ў калгаснікаў цёлачак ад непрадукцыйных кароў на сена, салому, на тое, што ў каго засталося.

Дык чаго ж гэта ў некаторых лідэраў, як і ў кіраўніцтва дзяржавы, вірус славянскай інтэграцыі скрывіў шыю толькі на Усход? У добрым і ў дрэнным звяртаем увагу толькі на Расію. А няхай бы пабываў той жа спадар А.Нятылькін у Польшчы, Літве, Фінляндыі, Даніі... Ды і не веру я гэтаму "вандроўніку". Яго ўсходні вектар прымушае замоўчваць той факт, што вось ужо трэці год Расія не збіраецца купляць хлеб за мяжой, абыходзіцца сваім, а мы і сёлета рыхтуем свірны пад замежны ураджай. Ды і наогул, мне так думаецца, сёння ў нас такое становішча, што якраз і не варта радавацца, параўноўваючы сябе з вёскамі Расіі, а лепей схапіцца за галаву, прымерваючыся да фермерскага Захаду. Пара ўжо нарэшце зразумець: воцат — не гарэлка, а кума — не жонка.

Але, выходзіць, не такая ўжо гэта простая справа. "Той шлях, якім сёння ідзе Русь, — працягвае спадар А.Нятылькін, — да дабра не давядзе. Гэты метад — не для нас. Прыватнік не ў стане сёння падняць зямлю".

Вось і гэты, як той камуніст В.Новікаў, туды ж. "Прыватнік не ў стане..."

А ці спрабавалі вы? А хто-небудзь ці дапамог прыватніку хоць бы палавінай таго, што ідзе сёння на "падтрымку штаноў" нямоглым калгасам? Фермеру, прыватніку — кукіш, і той без масла. Ні крэдытаў, ні зямлі, ні волі. А ён, прыватнік, сёння без усякай дапамогі з боку ўлады значна выйграе ў дзяржсектара. Нагадаю, амаль палову сельгаспрадукцыі дае прыватны сектар. Што, гэтага не ведае спадар А.Нятылькін? Ведае. Ніхто не стаіць у селяніна-прыватніка над душой, ніхто не будзіць яго, каб ішоў на працу, ніхто не падказвае, калі трэба сеяць, касіць, убіраць, уцяпляць кароўнік, якога і колькі назапасіць насення... Ён усё робіць сам. Яму не патрэбна ні шматтысячная "вертыкаль", ні дзяржкантроль, ні "настаўнікі-селектаршчыкі", ні ўпаўнаважаныя раённай адміністрацыі. А з'явіўся бы каторы з гэтых "грамацеяў" на яго падворак з падказкамі, то паслаў бы яго прыватнік туды, куды Макар цялят не ганяў...

"Канешне, калгасы сёння — анахранізм, — заўважае спадар А.Нятылькін, — Але гэта не значыць, што трэба поўнасцю разганяць калгасы і саўгасы — калі іх разагнаць, мы застанемся без кавалка хлеба".

Наколькі мне вядома, у апошнія гады ўсе, акрамя аграрнікаў, сцвярджаюць: няхай існуюць эканамічна моцныя калгасы, але паралельна дайце магчымасць развівацца прыватнаму сектару — фермерам, прысядзібным участкам. Рынак, калі ён запрацуе па-сапраўднаму, вызначыць кожнаму сваё месца: адным — жыццё, іншым — малітву за ўпакой. І толькі не трэба акуня вучыць плаваць. А то развялася цэлая зграя "настаўнікаў", адзін другога разумнейшы, а карысці ад іх — ніякай, затое шкоды хоць адбаўляй. І за гэта дзяржава яшчэ выдае ім немалыя аклады. Каб пладзіліся і развіваліся. На мой погляд, трэба толькі палітычная воля, каб даць селяніну сапраўдную свабоду (у першую чаргу — эканамічную), і не стане тады ў нашай краіне аўралаў, бітваў за новы ўраджай, надзвычайнага становішча ў час уборкі хлеба і бульбы, не будзе балець галава ў нашых дзяржаўных "дзятлаў". Але чаму ўлада гэтак скупіцца на волю для селяніна? Няўжо вольнае сялянства гэтак небяспечнае для рэжыму? Выходзіць-такі, што небяспечнае, калі гэтак раскашэльваецца на трыльённыя латы для паловы ад агульнай колькасці стратных калгасаў і саўгасаў.

## Па сакрэту ўсяму свету

На Гродзенскай нарадзе па пытаннях аграрна-прамысловага комплексу прэзідэнт заявіў: калгасы і саўгасы з'яўляюцца асновай дзяржаўнай улады на вёсцы. А некалі, помніцца, на старонках часопіса "Беларусь" (№3 за 1991 г.) дырэктар саўгаса А.Лукашэнка быў такім радыкалам, такім заступнікам сялянства, гэтак хацеў даць калгаснікам зямлю і волю!..

Даў, называецца... Выходзіць, што мужыкі-сталічнікі са сваёй званіцы бачаць лепш, чым селянін са свайго падворку?

Адтуль, з той высокай званіцы, па праўдзе кажучы, гэтага мужыка і не відаць. Хто ведае, можа, дужа высачэзная тая званіца, а можа, сядзяць там падслепаватыя мужыкі-верхагляды?

Атрымліваецца, што дзяржаве, уладзе, рэжыму, не хочацца губляць рычаг уздзеяння на вёску. Няма рашучасці ні ў прэзідэнта, ні ў прэм'ер-міністра, ні ў міністра-аграрніка змяніць карэнным чынам жабрацкае становішча сялян. Можа, таму, што па-ранейшаму дзейнічае бальшавіцкі прынцып — кіраваць усім без выключэння. Шкада губляць сельскі электарат, які і сёння дастаткова не разабраўся (а можа, і не хоча разбірацца) у прычынах, якія клешчамі трымаюць яго на мяжы прыгоннага права. Дапускаю, што ва ўрадзе няма дастатковай упэўненасці, што там могуць справіцца з такімі рэформамі. Выгадней трымаць вёску на кароткім ланцужку. Затурканая, сонная, п'яная, існучая, як у перыядзе сярэднявечча, яна ў палітычным плане не ўяўляе для ўлады небяспекі. А вось выйдзе вёска з крытычнага застою, прачнецца дзякуючы рынку і волі, і тады селянін адчуе сябе сапраўдным гаспадаром. А з гаспадаром, вольным і самастойным, рэжыму ў такія гульні, як сёння, гуляць рызыкоўна.

Той-сёй можа сказаць, што ў вёсцы амаль не засталося людзей, якія б маглі стаць фермерамі, тымі гаспадарамі, якія маглі б дапамагчы калгасам і саўгасам нарэшце накарміць краіну. Так, засталося мала. Дык што — чакаць, пакуль яны ўсе павыміраюць? Няма ахвотнікаў — няма праблемы? Давайце зробім стаўку на тых, хто яшчэ ёсць. Ну, дайце ім зямлю, дапамажыце на першым часе, удыхніце ў іхнюю душу надзею (вытраўляць усё з душы ў нас навучыліся), кіньце зерне спадзеўкі маладым і здольным, што могуць вярнуцца з горада ў вёску. Ну, нешта ж трэба рабіць?!! Ну, рабіце што-небудзь! Што ж вы, мужыкі-сталічнікі, даруйце, як баран у новыя вароты, упёрліся ў калгасы і саўгасы? Хопіць спяваць пра шматукладнасць нашай эканомікі. Перастаньце, нарэшце, дрынкаць языкамі, а бярыцеся за справу!

Мне можа той-сёй запярэчыць: не ўсе з прыватнікаў змогуць як след абрабляць зямлю. Згодзен, не ўсе. Дапускаю нейкую долю браку. А сённяшнія калгасы і саўгасы? Ці ўсе яны дбайна адносяцца да зямлі? Яны засяваюць усе палі, але шмат гаспадарак збіраюць ураджай з 70—80 працэнтаў плошчы. На астатняе не хапае ні сіл, ні тэхнікі. А якія страты пры ўборцы?! Чамусьці сёння афіцыйныя ўлады гэтага не ахці як заўважаюць. Быццам так і трэба: дзе п'юць, там і л'юць. А ці можаце вы ўявіць сабе прыватніка, які гэтак жа неахайна адносіцца да вырашчанага ўраджаю? Не! Спасылкі аграрнікаў на тое, што прыватнік быццам бы пагубіць зямлю, — гэта прыцягнутыя за вушы прычыны, якія нібыта тлумачаць, чаму ў нас на вёсцы не развіваецца прыватны сектар да ўзроўню таварнай вытворчасці. Адны (аграрнікі) ставяць палкі ў колы, падманліва сцвярджаючы, што самі сяляне не хочуць браць зямлю, другія (вяскоўцы) усё больш і больш страчваюць надзею набыць статус сапраўднага гаспадара, набываючы з дапамогай дзяржавы статус прыгоннага селяніна. Што сёння не з вялікай ахвотай сяляне бяруць зямлю, то ўсё тут зразумела. Дзяржава на заканадаўчым узроўні не гарантуе селяніну надзейнасць ягонага становічша і не заахвочвае яго памкненні. Сваёй аграрнай палітыкай яна паставіла хлебароба ў вечную залежнасць ад калгаса. Гэта тупік, з якога трэба тэрмінова выбірацца. Як? Сёння ўжо цяжка адказаць на такое пытанне. У сёлетняе жніво прэзідэнт, інспектуючы ўборку ў Слуцкім раёне, выказаўся адназначна: мы выбралі калгасы і саўгасы. Хто "мы", няцяжка здагадацца. Дык хто ж сёння асмеліцца ўзяць у

дзяржавы кавалак зямлі, калі прыарытэт па-ранейшаму аддаецца арцелям? Селянін — не дурань: ён разумее, што ў такой палітычнай сітуацыі, дзе зноў правяць бальшавікі, прэзідэнцкія ўказы і дэкрэты, мясцовыя "чырвоныя памешчыкі", дзе законы і Канстытуцыя наогул нічога не значаць для ўлады, дзе сёння так, а заўтра гэтак — рызыкаваць вельмі небяспечна. Светлая мара ў любы час абернецца бядой.

І дзіву даешся, што старшыні калгасаў, лідэры-аграрнікі, члены ўрада і нават сам аграрнік-прэзідэнт пераконваюць селяніна ў тым, што грамадскі сектар на вёсцы — адзіная сіла, здольная ратаваць нас ад голаду. І ў дадатак даволі сур'ёзна сцвярджаюць, што ўсё гэта і ёсць аснова дзяржаўнай улады на вёсцы. Здаецца, і пісьменныя мужыкі ў сталіцы, а ці то знарок, ці то ад прыроды такія "мондрыя", што так і стараюцца пад выглядам ратавальнікаў яшчэ больш утапіць вёску ў прыгонніцтве.

Што калгасы і саўгасы ў будучым не накормяць нас, то гэта, акрамя прэзідэнта і ўрада, разумее цяпер кожны. А вось што арцелі — аснова дзяржавы, то гэта варта было трымаць пад сакрэтам. Не, не таму, што гэта дзяржаўная тайна, а таму, што гэта, выбачайце, дзяржаўнае глупства. А такое напаказ выстаўляць не трэба.

Так што, мужыкі-сталічнікі, не займайцеся вы славаблудствам, а знайдзіце сабе больш карысную для вёскі справу. Хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос! А хто думае, што расказаў я вам пра жураўля на хвоі ды пра грушы на вярбе, не пагрэбуйце, прыязджайце да мяне на вёску. Я з мясцовымі мужыкамі паваду вас па хатах, па падворках, на палі сялянскія і арцельныя, а потым вернемся ў маю хаціну і ў ахвотку нагаворымся пра "положения и направленности" на вёсцы. Будзем успамінаць не Сен-Сімона, як спадар В.Новікаў, а дзядзьку Хведара і цётку Марылю, якія, як і іх далёкія продкі, па-ранейшаму трасуцца над кожнай капейкай, прагінаюць спіны і калені перад "чырвонымі памешчыкамі". Успомнім, што носяць яны да гэтага часу яшчэ сталінскіх часоў салдацкія, латаныя-пералатаныя бушлаты і клееныя-пераклееныя гумавыя боты. Што іх ад непасільнай работы на калгас і ўласную гаспадарку заўчасна згорбіла старасць і абступілі розныя хваробы. Што ад штодзённай п'янкі даўно белы свет здаецца шэрай ночкай, доля ператварылася ў ліха, а жыццё — у існаванне ссыльнага катаржніка.

Вернецеся дамоў зусім іншымі людзьмі...

Прыязджайце!..

в.Мазалі

Маладзечанскага раёна.

## Ці пападзе Літва ў другі этап пашырэння НАТА?

Прэзідэнт няўрадавай арганізацыі ЗША "Камітэт за пашырэнне НАТА" Брус Джэксан, які гасціць у Вільнюсе, не сумняваецца, што Літва пападзе ў другі этап пашырэння Паўночнаатлантычнага альянсу, паведаміла ў БелТА літоўскае інфармацыйнае агенцтва ЭЛЬТА. Аднак, паводле яго слоў, да гэтага часу невядома, калі пашырэнне НАТА будзе прадоўжана.

Пасля сустрэчы з прэзідэнтам Літвы Валдасам Адамкусам 7 верасня кіраўнік Камітэта за пашырэнне НАТА сказаў журналістам, што на Захадзе ніхто не сумняваецца: балтыйскія краіны трэба прыняць у альянс. "Цяпер ніхто не пытаецца "чаму". Існуе пытанне "як", — сцвярджае ён.

**ЭЛЬТА-БелТА.**

# БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ Ў СЛАВЕНІІ





**Беларускія дзеці і старэйшыя ў лягеры Чырвонага Крыжа ў Славеніі.**

Славенія... Маленькая, вельмі зялёная гасьцінная краіна, з высокім узроўнем жыцьця. Сярэднемесячная зарплата $1000 даляраў, кожны славенец мае машыну, кватэру, дом. Усё гэта можна набыць пад крэдыт за невялікія працэнты.

Тут, на беразе Адрыятычнага мора, у дзіцячым цэнтры Чырвонага Крыжа Славеніі гэтым летам прайшлі курс аздараўленьня 85 беларускіх дзяцей з аслабленай імуннай сыстэмай, бранхіяльнай астмай, хранічнымі прастуднымі захворваньнямі, павялічанай шчытападобнай залозай. Цёплае мора, басэйн з марской вадою, паветра, настоенае на водары гаючых вечназялёных кветак, лавандзе і размарыне — сапраўднае райскае месца для нашых дзяцей. Большасьць з іх — з сем'яў беларускай інтэлігенцыі, якія ніколі не былі за мяжой і нават на моры. Гэта Хрысьціна Марачкіна, Вітаўт Купава, Марыся Янушкевіч, Адась Бяляцкі, Сьвятлана Хатэнка і другія... яны любяць сваю Бацькаўшчыну так-жа моцна, як і іх бацькі...



**Спадарыня Ірэна Каляда-Сьмірноў з групай беларускіх дзяцей.**

Такі цудоўны падарунак яны атрымалі ад нашай зямлячкі з Амэрыкі **Ірэны Каляды-Сьмірновай.** Як і многія нашы суайчыньнікі за мяжой, яна вельмі балюча ўспрыняла Чарнобыльскую трагедыю, што паставіла беларусаў на мяжу фізычнага выжываньня. Японскія вучоныя прадказваюць, праз 3-4 пакаленьні Беларусь больш існаваць не будзе... Таму спд. Ірэну асабліва хвалюе здароўе нашых дзяцей, бо ад яго залежыць лёс беларускай нацыі. Яна ведае, што сёньня ў Беларусі няма практычна здаровых дзяцей, асабліва ў вялікіх гарадах. Спд. Ірэна — прэзыдэнт фонду **Ethnic Voice of America**, даўні спонсар Чырвонага Крыжа Славеніі.

Асобай увагі заслугоўвае яе пляменьнік Жора Каляда. Ён фактычна зьяўляўся прадстаўніком Ірэны ў Славеніі і правёў вялікую працу па арганізацыі паездкі. Шчыра кажучы, я ў нейкі час сумнявалася ў выніку паездкі, калі даведалася, як складана яе аформіць. Але з дапамогай Жоры яна адбылася. І ў летніку ён выконваў абавязкі фінансавага дырэктара, перакладчыка, кіраўніка розных мерапрыемстваў і экскурсіяў.

«Мы проста ў захапленьні ад паездкі — расказваюць Таня Гарон і Андрэй Такіндаг, цікавыя экскурсыі, знаёмства з гістарычнымі мясьцінамі, новымі сябрамі». Ім вельмі спадабалася паездка на возера, у якое, як у люстэрка глядзяцца вяршыні прылягаючых гораў, скрозь блакітна-празрыстую ваду на 30 мэтровай глыбіні можна бачыць чародкі вялізных рыбаў, а пасярэдзіне на маленькім востраве ўзвышаецца царква XI стагодзьдзя. Таня і Андрэй вучацца ў беларускім мастацкім ліцэі. Як і большасьць адпачываючых дзяцей, добра ведаюць беларускую мову, гісторыю Беларусі. Размаўляючы з аднагодкамі-славенцамі прыйшлі да высновы, што мовы і гісторыя нашых краін вельмі падобныя.

Маленькая Данута, якая з-за частай прастуды паўгода не хадзіла ў школу, да гэтага часу ў сваіх снах бачыць дарагіх пародзістых коней, якіх дзеці пабачылі пад час экскурсыі на конны завод XYI стагодзьдзя. Яна марыць паехаць на наступнае лета толькі ў Славенію...

Вядома, што нашых хлопчыкаў вельмі ўразілі пячоры, дзе яны пабывалі і пазнаёміліся са сталакцытамі і сталагмітамі, падземнымі рэчкамі... А яшчэ яны часта ўспамінаюць спартыўныя міжнародныя спаборніцтвы па плаваньні, футболу, у якіх каманда Беларусі заўсёды займала першае месца.

А ў канцы жніўня Спд. Ірэна, разам са сваім калегам Марыё, які родам са Славеніі, і вядомым нам усім М. Пруским наведалі галоўны офіс Чырвонага Крыжа ў Любляне, сустрэліся з дзецьмі ў лягеры, прывезьлі падарункі і вітаміны. Пісьменьніца Антаніна Хатэнка, адна з выхавальніц групы дзяцей, перадала гасьцям з Амэрыкі беларускія сувеніры і сказала на разьвітаньне:

— Ад імя усіх бацькоў, дзеці якіх не маглі нават марыць аб такім адпачынку, выказваем вялікую падзяку спадарыне Ірэне за тую высокародную справу, якую яна распачала ў гэтым годзе. Мы гатовы яе прадоўжыць і ў наступным годзе, але праграму побыту дзяцей за мяжой патрэбна распрацоўваць ужо цяпер і галоўнае тут — выхавацелі, а не выпадковыя людзі, якія звычайна суправаджаюць замежныя дзіцячыя паездкі".

*Н. Пятухова*

Ад Рэдакцыі: За працу, якую робяць спадарыня Ірэна Каляда-Сьмірноў і спадар Марыё Каўціч, належыць ім вялікая падзяка і агульная пашана. Добрая праца на карысьць беларускіх дзяцей, спадзяемся, будзе прадаўжацца.

**God Bless you!**





# Вечныя брамы Нясвіжа

“Бярозка”

Упершыню я наведаўся ў Нясвіж пешкі, як пілігрым. Вясёлай студэнцкай кампаніяй мы высадзіліся з электрычкі на станцыі Гарадзея і за некалькі гадзінаў адолелі пятнаццацікіламетровую адлегласць да былой рэзідэнцыі Радзівілаў. Цяжкія заплечнікі і чэрвеньская спёка прыкметна-такі пазбавілі нас вандроўніцкага імпэту, але сустрэтыя на паўдарозе застыглыя ў вечных абдымках дуб і сасна, што ўжо дзвесце гадоў сімвалізуюць вялікае каханне, аднавілі яго з новай сілай. Помнік прыроды аказаў на нас такое магутнае ўздзеянне, што рысу горада мы пераступілі, несучы сваіх спадарожніц на руках.

Роўна праз дзесяць гадоў я ехаў па той самай дарозе ў камфартабельным аўтобусе на традыцыйны фестываль камернай музыкі «Музы Нясвіжа», адкрываць які з прычыны непрыезду волатаў слова мусіў я. У галаве пачыналі паціху гучаць паланезы Агінскага, з якіх мелася складацца фестывальная праграма, але вока пільна прыглядалася да прыдарожных краявідаў. Вунь хутар, на якім мы папаўнялі запасы пітной вады. Вокны забітыя дошкамі, панадворак зарос ярка-зялёнай травой. Вунь яловы лясок, у якім мы тады бясстрашна спыніліся на начлег, вырашыўшы праверыць на ўласным досведзе слушнасць народнай прыказкі, якая катэгарычна сцвярджала, што яловы лес прыдатны толькі для прадавання душы д'яблу. Раніцай мы пасаймікаваліся каля дагарэлага вогнішча і адзінагалосна вырашылі, што нашыя беларускія душы чамусьці не зацікавілі нячысцікаў і засталіся пры нас. Праўда, нейкі жартаўлівы лясун усё ж не пакінуў нас без увагі і непрыкметна засунуў у мой заплечнік пудовую смалістую калодку. Адпачыўшы і добра паснедаўшы, я пёр раптоўна пацяжэлы рукзак кіламетры два, пакуль не агледзеў нячысцікавай дыверсіі.

Я хадзіў па Нясвіжы, і былыя ўражанні нагортваліся на сённяшнія, перамешваліся з прачытаным у кнігах.

Дзесяць гадоў — імгненне для муроў, якія непарушна стаяць на працягу стагоддзяў. У знакамітым радзівілаўскім замку сёння месціцца санаторый для асабліва заслужаных грамадзянаў Рэспублікі Беларусь. Мужчынаў сталага веку, якія носяць ордэнскія планкі нават на казённых халатах, і бабулек-божых дзьмухаўцоў чамусьці мала цікавяць былыя гаспадары палаца. Са сценаў санаторыя нахабна пазіраюць трохметровыя суворавы і нахімавы, ствараючы ўражанне поўнага захопу родавага гнязда Радзівілаў аб'яднаным расійскім войскам. З якіх часоў і за якія заслугі вісяць тут партрэты военачальнікаў суседняй дзяржавы, высветліць не ўдаецца, але іхняя прысутнасць не абражае сённяшніх часовых насельнікаў замка. Праўда, паўтузіну расійскіх палкаводцаў у масіўных залачоных рамах супрацьстаіць шматлікая зборная каманда беларускіх князёў і гетманаў, што стоўпіліся на карціне, якой адведзена сціплае месца ў більярднай. Прычым, за зялёным полем, на якім гаспадараць даўжэзныя кіі, і Вітаўт, і Канстанцін Астрожскі сочаць ненатуральна вырачанымі вачыма сыназабойцы Івана Грознага, з якім мастакоўскі пэндзаль абышоўся таксама не дужа літасціва.

Па рыпучым паркеце мы праходзім анфіладай пакояў і трапляем у былую камінную залу, перабсталяваную пад сталоўку. Камін наўрад ці запальваўся апошнія паўвека, маўклівы і халодны, ён нібы аглух ад частага бразгання талерак. Паводле інвентару 1658 года ў замку налічвалася дванаццаць залаў. Мяне апаноўвае цікавасць — дзеля якіх надзённых патрэбаў выкарыстоўваюцца астатнія: рыцарская, мармуровая, гетманская, паляўнічая, залатая? Але адміністратарка адмахваецца, маўляў, можа, вам яшчэ і падземную стайню паказаць? Расчаравана ўздыхнуўшы, ужо на ганку я прыгадваю дзесьці вычытанае пра тую самую стайню: нібыта дах яе падпіралі магутныя дубовыя калоны, а конюх-ангелец даглядаў паўсотню рысакоў, ходзячы па дыванах. Зняволенне коней у падзямеллі, хай сабе і шыкоўным, я вытлумачваю для сябе дзіўнай любоўю Радзівілаў да іншай цяглавай сілы. Адзін з яскравых прадстаўнікоў княскага роду, Караль Станіслаў Радзівіл, празваны Пане Каханку, любіў праехацца ў брычцы, запрэжанай шасцерыком мядзведзяў.

З возера нават у сонечнае надвор'е дзьме пранізлівы вецер, уражанне — нібы стаіш на беразе якой-небудзь Фінскае затокі. Калісьці на пацеху заезнае знаці па азёрных хвалях слізгалі бутафорскія караблі, рассыпаліся феерверкі, імітуючы марскія бітвы. А сёння ў даўжэзны човен, які сваім старэчым выглядам выдае на ўдзельніка тых грандыёзных баталій, рабочыя грузяць леташняе сапрэлае лісце, што шчодра заслала насыпныя прыбярэжныя валы. Пасля човен, відаць, успомніўшы сваё слаўнае баявое мінулае, занатурыўся, і яго доўга не мог выцягнуць на бераг раззлаваны «зіл».

На супрацьлеглым баку возера, як выкінуты цунамі на бераг айсберг, бялеецца Слуцкая брама — помнік XVI стагоддзя. Даўно ўжо дарогі, шануючы яе паважны век, адступіліся ўбок, пад яе скляпенні толькі зрэдку заходзяць турысты. Так і хочацца пакласці ў адмысловае акенца якога-небудзь да смерці загнанага інфляцыяй беларускага звера, расчытаўшы строгі надпіс: «Тут святы збор, тут мытны збор пакінь для Марыі, таму што кожны павінен Богу, а за гэта атрымаеш узнагароду на зямлі, а затым і на небе». Ды вакенца наглуха зачыненае, не чуваць галасоў мытнікаў, і памяць паслужліва прапаноўвае нешта весялейшае, з іншае оперы, дакладней, з песні легендарнага рок-гурта «Мроя»: «Слуцкая брама — непадкупны мур, Слуцкая брама — сведка авантур...»

Ад авантураў адразу ступіць на цвінтар славутага на ўсю Усходнюю Еўропу нясвіжскага касцёла, будаўніцтва якога закончана ажно ў 1593 годзе, неяк няёмка, і мы накіроўваемся ў стары радзівілаўскі парк. Па алеях павольна прагульваюцца адпачыннікі. З-пад засені магутных дрэваў насустрач нам па чарзе выходзяць убранзавелыя славутасці Ян Марыя Бернардоні, Тамаш Макоўскі, Мікалай Радзівіл Сіротка, Уладзіслаў Сыракомля, Якуб Колас. З нетраў памяці самі па сабе выскокваюць радкі расійскага паэта: «Приснилось мне, что я чугунным стал. Мне двигаться мешает пьедестал». П'едэстал з беларускага каменю абцяжарвае нават тэмпераментнага італьянца з жаночым імем, і ён рухаецца паважна, нібы ў запавольным кіно. Голас з металёвым адценнем гучыць урачыста:

— Перад прыгажосцю маіх храмаў кленчаць людзі ў Рыме і Кракаве, але толькі ў Нясвіжы, паводле боскае волі, я сатварыў цуд у выглядзе фарнага касцёла. Мне суджана было нарадзіцца ў італьянскім горадзе Кома, праехаць амаль усю Еўропу, але толькі на святой зямлі Беларусі Бог прыклікаў мяне да сябе. Я часам сумую па пяшчотных хвалях Неапалітанскае затокі, па гатычных рымскіх саборах, але за чатыры стагоддзі я зжыўся з Беларуссю, мая душа зьлілася з адвечным спакоем вашай цудоўнай зямлі. Я не забыўся роднай спеўнай мовы, але беларускую вывучыў яшчэ ў шаснаццатым стагоддзі...

З-пад навісі пругкага і ўзорнага, нібы выразанага з бляхі, дубовага лісця на алею выходзіць зграбны і ў бронзе мастак і гравёр Тамаш Макоўскі, які на сваіх творах падпісваўся на лацінскі манер — Маковіус, а часам проста пісаў: «Макаў выразаў у Нясвіжы».

— Я пабачыў паўсвету, але нідзе не знайшоў краявідаў, прыгажэйшых за беларускія. Жадаючы дапамагчы падарожнікам з іншых краінаў трапіць у наш цудоўны Край, я яшчэ чатыры стагоддзі таму задумаў выгравіраваць геаграфічную карту Беларусі. Пасля шматгадовых вандровак і карпатлівай працы я ў 1613 годзе ў Амстэрдаме выдрукаваў карту, якая мела вялікі поспех у Еўропе і перавыдавалася ў 1631, 1653, 1662 і 1668 гадах на лацінскай і французскай мовах. Замежныя падарожнікі, купцы і каралі гаварылі мне дзякуй, але я быў найперш рады, што змог паслугаваць сваёй Айчыне...

Праз нейкі дзесятак метраў упэўненым гаспадарскім крокам дарогу нам заступае Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, сам заўзяты падарожнік і пісьменнік. У ягоным голасе і блізка не чуваць сірочых інтанацый, але князь прамаўляе ветліва:

— Нядаўна ў нашай фамільнай бібліятэцы мне паказалі кнігі Уладзіміра Арлова і Леаніда Дранько-Майсюка. Файна пішуць хлопцы пра Парыж і Лондан, Амерыку і Афрыку. Няйнакш начыталіся маіх «Вандровак», якія ўпершыню пабачылі свет ажно ў 1601 годзе і за наступных паўвека перавыдаваліся дзевятнаццаць разоў. Мо і не выпадае маёй княскай мосці выхваляцца, але менавіта мы з наваградскай лекаркай Саламеяй Пільштыновай распачалі вандроўную тэму ў беларускім прыгожым пісьменстве.

На нашу просьбу пачытаць што-небудзь экзатычнае князь нечакана згаджаецца і, выцягнуўшы аднекуль з-пад крыса кнігу ў скураным пераплёце, спаважна дэкламуе:

— Калі мы ўехалі ў Ніл, на беразе было відаць вельмі шмат буслоў, якія прылятаюць у тыя месцы з нашых краёў. У жніўні Ніл мае звычку разлівацца, і пасля паводкі на берагах застаецца безліч рознай жыўнасці — змеяў, вужоў, розных жабак. Выдатная спажыва для буслоў!

Улічваючы, што князь не проста падарожнічаў, а здзяйсняў паломніцтва ў Палесціну, а значыць, павінен быў штодзённа настройваць свае думкі на высокі лад і не разлучацца з малітоўнікам, ягоныя патрыятычныя запісы пра буслоў вартыя бязмежнай пашаны нашчадкаў. Пакланіўшыся князю, мы скіроўваемся далей.

З-за шапаткога клёна выглядае шаснаццацігадовы семінарыст Кастусь Міцкевіч. Яму сумнавата ўвесьчасна знаходзіцца ў дзядоўскай кампаніі, ён хацеў бы расказаць нам, якія прыгожыя паненкі маюцца ў Нясвіжы, пачытаць прысвечаныя ім свавольныя вершы. Але гэта немагчыма, бо пахмурны і вечназадумлівы дзед Якуб Колас, які сядзіць у Мінску на ўласнай плошчы, катэгарычна забараніў яму прыгадваць што-небудзь такое, чаго няма ў чатырнаццацітомавым Зборы твораў.

На скрыжаванні алеяў нас сустракае супрацоўнік канцыляры Нясвіжскага замка Людвік Кандратовіч, што падпісвае свае паэтычныя творы псеўданімам Уладзіслаў Сыракомля. Ён марыць напісаць гісторыю Нясвіжа і роду Радзівілаў, збіраецца спагнаць кантрыбуцыю з расійскага паэта Л.Трэфалева, які прысвоіў ягонага «Паштальёна». Я палагоджваю аўтарскае самалюбства Сыракомлі, расказаўшы, як выдатна выконвае «Паштальёна» заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Скорабагатаў — ад шкадобы па замерзлай дзяўчыне слухачы плачуць, а ад магутнага басу спевака дрыжаць шыбы любой, самай вялікай залы. На развітанне Уладзіслаў Сыракомля чытае санет пра пахаванні Радзівілаў з кнігі «Успаміны пра Нясвіж»:

*Пад даўняй святыняй —*
*дзён колішніх сховы:*
*Падземны там склеп,*
*ёсць алтар у ім, краты,*
*Эбенавых трунаў там*
*шэраг суровы —*
*Ляжаць у іх косці,*
*сатлелыя шаты...*

Сыракомлеў верш наводзіць нас на роздум пра марнасць зямнога жыцця, і мы ў лабірынце паркавых алеяў пачынаем шукаць дарогу да храма, на высачэзных крыжах якога, здаецца, дасыхаюць дзве белыя аблачынкі. Падыходзім. Той самы, выштукаваны дойлідам, які адначасова Ян і Марыя. Першы помнік у стылі барока на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Лашчыць вока расклад касцельных службаў, складзены на беларускай мове. Усярэдзіне хочацца перайсці на шэпт, альбо зусім замаўчаць, каб не абразіць недарэчным словам намоленыя святыні. Масіўнае века, што закрывае ход пад скляпенні да радзівілаўскіх саркафагаў, прымкнута яшчэ і на замок, ключ ад якога захоўваецца ў вельмі адказнай асобы. Я прыгадваю, як у свой час бесперашкодна трапіў у падзямеллі Кіева-Пячорскай лаўры, змог наведаць скрыпту Адама Міцкевіча ў касцёле на Вавелі, і мне робіцца сумна. Не, я зусім не некрафіл, але чаму я не магу вусцішна пастаяць над апошнім прытулкам легендарнага Пане Каханку, пра якога напісаны з тузін раманаў. Над адным з іх, які належыць пяру Юзафа Крашэўскага і які бліскуча пераствораны па-беларуску Васілём Сёмухам, я тыдзень таму правёў некалькі асалодных гадзінаў. Чаму я не магу выказаць апошнюю пашану праху аднаго з першых беларускіх пісьменнікаў, што высачыў родных буслоў аж на далёкім Ніле, Радзівілу Сіротку, які загадаў у тастаменце пахаваць яго ў адзенні звычайнага селяніна, а на труніцы выбіць словы: «Прышэлец я і вандроўнік перад Табою, як і ўсе мае продкі». Але ўсе мае сам-насамныя нараканні не вартыя і вышчарбленай капейкі, што ўшчамілася паміж камянёў на касцельным ганку. Пасля таго, як нясвіжскі храм ад крыжоў да скляпенняў аблазілі скарбашукальнікі з кіраўніцтва справаў прэзідэнта, у мясцовых парафіянаў да ўсіх прыезджых адносіны не дужа прыхільныя. А не даюць спакойна спаць аматарам скарбаў дванаццаць апосталаў, пяць з якіх выраблены з чыстага золата, астатнія — са срэбра. Каштоўных апосталаў, нібыта схаваных Радзівіламі перад уцёкамі за мяжу, шукалі яшчэ напалеонаўскія жаўнеры і гітлераўская спецкаманда. Ніхто не знайшоў радзівілаўскага золата.

Прыемна прайсціся ад касцёла па вуліцы Адама Міцкевіча, сёлетняга юбіляра, мабыць, адзінага паэта ў свеце, якому пастаўленая рэкордная колькасць помнікаў — ажно пяцьдзесят чатыры. Але што за дзіва — на крайнім будынку чытаем шыльду: Ul. Mickiewicza. На другім будынку чужамоўе працягвае рэзаць вочы: ул.Мицкевича. Ганарыся, Нясвіж — твае вулічныя шыльды пішуцца па-польску і па-руску, хоць сташ ты пасярод Беларусі.

На недалёкім пляцы роспачна разводзіць рукамі бронзавы Сымон Будны...

І ўсё ж у Нясвіж ездзіць варта. Каб у прагматычны век душа не развучылася адгукацца на хараство. Каб у старым парку разгаварыць амаль анямелыя постаці. Каб адчуць сябе пілігрымам на вышараваных да бляску за сотні гадоў камянях пад вечнымі нясвіжскімі брамамі.

*Міхась СКОБЛА.*

«Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць...»

## НОВАЯ ВЫСТАВА Ў ПЕРШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГАЛЕРЭІ

Менавіта так — Першая Беларуская — называюць сваю Lincoln Terrace Art Gallery яе гаспадары — мастакі Соня і Леанід Асеньнія. Знаходзіцца яна амаль што ў самым цэнтры Скокаў, блізкага паўночнага чыкагскага прыгарада. Нядаўна тут Соня і Леанід Асеньнія адкрылі выставу сваіх жывапісных твораў, на якіх — толькі напісаныя алеем нацюрморты з кветкамі. Такі і назоў у гэтай выставы: "Успамін аб леце".

Кветкі, вядома, заўсёды прыгожыя самі па сабе. Але асаблівую чароўнасьць яны набываюць ад позірку мастака. У розныя гады пісалі гэтыя карціны іх аўтары. І на рознай зямлі — беларускай і амэрыканскай. Але яднае гэтыя палотны перш за ўсё прыгажосьць, адносіны да гэтай прыгажосьці. На выставе "Успамін аб леце" прыгадаліся вядомыя радкі Максіма Багдановіча як раз пра гэтыя адносіны, пра гэтае пачуцьцё: "І прад высокаю красою, увесь зачараваны ёй, скланіўся я душой маёй..."

Кветкі яблыні і вішні... Бэз... Магнолія... Сланэчнікі... Стакроткі... Астры... Цюльпаны... Дабраякасны клясычны жывапіс, дакладныя мазкі і колер... Амаль што вучэбныя ўзоры. Адчуваньне таго, што за творчай манерай аўтараў стаіць сур'ёзная жывапісная школа. Дарэчы прыгадаць, што як раз 100 гадоў таму ў Віцебску І. Пэн адкрыў мастакоўскую школу, якая потым дала сьвету Шагала і іншых найвыдатнейшых майстроў. У Іегуды Пэна вучыўся і Хаім Ліўшыц, бацька Соні і настаўнік Леаніда... Таму такі натуральны ў экспазыцыі твор Леаніда Асеньняга "Мастак з кветкамі", своеасаблівы арыгінальны партрэт Хаіма Ліўшыца.

Пра кожную карціну на гэтай выставе можна гаварыць асобна. І пра кампазыцыю нацюрморта Леаніда Асеньняга "Сухія кветкі з Літвы", дзе букет — побач з раялем. І пра зусім нечаканы "Аўтапартрэт" таго-ж аўтара. І пра перадачу настрою ў "Чырвоных цюльпанах" Соні Асеньняй. І пра твор "Кветкі на зялёным крэсьле". З часам погляд Леаніда Асеньняга, напрыклад, робіцца вастрэйшым, мастацкае абагульненьне натуральна злучаецца з падкрэсьленай дэталізацыяй, як у палотнах "Стакроткі на блакітным" ды ў іншых.

"Васількі ў блакітнай вазе" Леаніда Асеньняга ўспрымаюцца ўжо зусім як нешта роднае і блізкае. Зноў успомніўся Максім Багдановіч: "Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць, маркотна між іх я хаджу адзінок, аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае наш родны, забыты ў цяні васілёк..." Падумалася пра тое, што, напэўна, добра, калі "Васількі" ды іншыя творы Соні і Леаніда Асеньніх выклікаюць на гэтай экспазыцыі зусім настальгічны настрой, а пачуцьцё радасьці і захапленьня аднолькава прыгожым пад адным небам і на далёкай і на блізкай кожнаму з нас зямлі.



Першая Беларуская галерэя (5027 Warren St., Skokie, IL,. 60077, тэл. (847) 673-7308) — ня проста зала для выставаў, але яшчэ і студыя, дзе вядуцца рэгулярныя заняткі з дзецьмі. І ў гэтым бачыцца рэальны і так неабходны сёньня працяг традыцыяў славутай віцебскай мастакоўскай школы.

*Ванкарэм Нікіфаровіч.*



На рэпрадукцыях: 1. Леанід Асеньні. "Васількі ў блакітнай вазе". 2. Соня Асеньняя. "Чырвоныя цюльпаны".

**Крывавыя старонкі**

## Наркамы-сілавікі, ці Гісторыя БССР у канкрэтных асобах

*Народная Воля*

*Народы пасунуцца толькі тады, калі ўсвядомяць усю глыбіню свайго падзення.*

*Э.Кінэ.*

У гісторыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі масцца, на жаль, яшчэ даволі шмат "белых плямаў". Дзякуючы маім упартым пошукам мне ўдалося ўсё ж праліць святло на асобныя раздзелы чорных старонак ужо неіснуючай як дэ-юрэ, гэтак і дэ-факта краіны Саветаў. Зрэшты, мяркуйце самі, паважаныя суайчыннікі.

**Наркамы вайсковых спраў БССР (БВА)**

А.Ф.Мяснікоў (сапр. Мяснікян), (1 студз. — 3 лют. 1919 г.). У 1925 годзе загінуў у авіякатастрофе, арганізаванай працаўнікамі з Закаўказскага НКУС.

І.С.Уншліхт (люты — жнівень 1919 г. Літ. — Бел.ССР). У 1938 г. расстраляны.

І.А.Адамовіч, барысаўчанін, (з вер. 1920 г...). У 1937 г. у абставінах масавых рэпрэсій скончыў жыццё самагубствам (застрэліўся).

М.М.Тухачэўскі (крас. 1920 — жн. 1921, студз. 1922 — сак. 1924 гг. — камандуючы Заходнім фронтам). У 1937 г. расстраляны.

А.І.Корк (1924 — 1927 гг.). У 1937 г. расстраляны.

А.І.Ягораў (1927 — 1931 гг.). У 1939 г. расстраляны.

І.П.Убарэвіч (1931 —1937 гг.). У 1937 г. расстраляны.

І.П.Бялоў (1937 г.). У 1938 г. расстраляны.

М.П.Кавалёў (1938 — 1940 гг.). У 1967 г. памёр у сталым веку. Інакш кажучы, сваёй смерцю...

Д.Р.Паўлаў (1940 — 1941 гг.). У 1941 г. расстраляны за (чужыя) памылкі і стратэгічныя пралікі І.Сталіна і яго палітбюро ЦК УКП(б).

**Наркамы НК (ЧК) — ДПУ — НКДБ — МДБ БССР**

В.І.Яркін (7 студз. — 3 лют. 1919 г.). У 1937 г. расстраляны.

Я.К.Ольскі (сапр. Кулікоўскі), (кастр. 1920 — студз. 1923 гг.). У 1938 г. расстраляны.

С.Ф.Пінталь (1923 — 1924 гг.). У 1937 г. расстраляны.

Ф.Д.Мядзведзь (1924 г.). У 1937 г. расстраляны.

Р.А.Піляр (1925 — 1929 гг.). У 1937 г. расстраляны.

Р.Я.Рапапорт (снеж. 1929 — сак. 1931 гг.). У 1938 г. расстраляны.

Л.М.Закоўскі (сапр. Штубіс Г.Э.), (крас. 1932 — ліп. 1934 гг.). У 1938 г. расстраляны.

**Заўвага.** 3 ліпеня 1934 г. па люты 1941 г. органы дзяржбяспекі ўваходзілі — былі аб'яднаныя — у Наркамат унутраных спраў (гл. ніжэй графу НКУС — МУС БССР).

Л.Ф.Цанава (сапр. Джанджгава), (сак. — ліп. 1941 г., чэрв. 1943 — кастр. 1951 гг.). У 1955 г. (12.Х.) на допыце ў Лефортаўскай вязніцы забіты да смерці (па іншых звестках, яго прозвішча-псеўданім фігуруе ў расстрэльных спісах "берыяўцаў" за снежань таго ж 1955 года).

Па самых сціплых падліках дасведчаных гісторыкаў, пад кіраўніцтвам Л.Цанавы ў БССР было знішчана (фізічна) некалькі сотняў тысяч (!) невінаватых душ.

**Наркамы НКУС — МУС БССР**

С.В.Іваноў (1 студз. — 3 лют. 1919 г.). У 1955 г. памёр па старасці.

З.І.Ангарэціс (сапр. Алекса), (лют. — жн. 1919 г. Літ. — Бел.ССР). У 1940 г. расстраляны.

І.А.Адамовіч, барысаўчанін (пачатак 1921 г.). У 1937 г. скончыў жыццё самагубствам (застрэліўся, каб не быць арыштаваным...).

С.А.Мертэнс (1921 г.). У 1937 г. расстраляны.

П.Д.Малаковіч (1922 — 1923 гг.). У 1937 г. расстраляны.

Д.С.Чарнушэвіч (з 1924 г.). У 1938 г.расстраляны.

А.І.Хацкевіч (з 1925 г.). У 1937 г. расстраляны.

А.В.Сташэўскі (з 1926 г.). У 1938 г. расстраляны.

Р.А.Піляр (1929 — 1930 гг.). У 1937 г. расстраляны.

Р.Я.Рапапорт (1930 г...). У 1938 г. расстраляны.

Л.М.Закоўскі (сапр. Штубіс Г.Э.), (ліп. — снеж. 1934 г.). У 1938 г. расстраляны.

І.М.Ляплеўскі (1934 — 1936 гг.). У 1938 г. расстраляны.

Г.А.Малчанаў (ліст. 1936 — лют. 1937 гг.). У 1937 г. расстраляны.

Б.Д.Берман (сак. 1937 — трав. 1938 гг.). У 1939 г. расстраляны.

Пад патранажам Б.Бермана ў нашай некалі суперкамунізаванай рэспубліцы было расстраляна не менш як 100 тыс. чалавек. У адным толькі Мінску за няпоўны год яго д'ябальскай дзейнасці было расстраляна больш за 80 тыс. так званых тады "ворагаў народа".

А.А.Наседкін (трав. — ліст. 1938 г.). У 1938 г. расстраляны.

Прыняўшы гэты крывавы канвеер, А.Наседкін за кароткі адрэзак часу замардаваў не адну тысячу чалавечых жыццяў. Трэба меркаваць, што гэта ён распрацаваў тэхніку катаванняў па частцы палавых органаў. Менавіта асаблівая вынаходлівасць "беларускіх" нкусаўцаў, іх драпежны вопыт... быў пасля хутка пераняты ў іншых рэгіёнах дадзенага ведамства, а некаторыя катаванні потым спатрэбіліся нават гестапаўцам, бо сёй-той з гэтых "спецыялістаў па анатоміі" падчас нямецка-фашысцкай акупацыі ішоў служыць — прапаноўваў свае паслугі ў якасці пачвары-садыста СД і гестапа (гл. газету Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь "Во Славу Родины" ад 23 сакавіка 1993 г. "Тень Берии бродит по нашим улицам").

Л.Ф.Цанава (сапр. Джанджгава), (снеж. 1938 — ліп. 1941, чэрв. 1943 г...).

12.Х.1955 г. пасля чарговага (лёсавага) допыту сканаў на турэмным ложку.

С.С.Бельчанка (1944 г...). Дату смерці вызначыць пакуль не ўдалося.

Па даных, якія неаднаразова публікаваліся ў прэсе многіх краін свету і СНД, вядома, што ў сталінскіх лагерах і мурах у перыяд з 1920 па 1953 гг. загінула звыш 40 млн. савецкіх грамадзян. Нобелеўскі лаўрэат А.Салжаніцын даказваў, што ахвярамі бальшавікоў-камуністаў з 1917-га па 1959-ы гады сталі 66 млн. 700 тыс. чалавек (гл. "Кнігу рэкордаў Гінеса", рубрыку "Юстыцыя").

З агульнай колькасці ахвяраў жахлівых рэпрэсій больш за 20 тыс. складаюць вайсковаслужачыя ЧК-НКУС. Як бачна на прыкладзе наркамаў-сілавікоў БССР, тыран І.Джугашвілі (Сталін) не трымаў доўга на "плыву" сляпых выканаўцаў сваіх брудных спраў. Нават прафесійных катаў ён адпраўляў услед за іхнімі ахвярамі. Сярод чэкістаў-нкусаўцаў былі, канечне, людзі, якія адмаўляліся выконваць злачынныя загады. Аднак гэткіх вось таварышаў было зусім мала.

Такім чынам, рэжым бальшавікоў уцягнуў агромністыя масы людзей еўраазіяцкага кантынента ў трагічныя падзеі, што не магло не адбіцца катастрафічна на генафондзе як беларускага, так і ўкраінскага ды рускага народаў. Прынамсі, 90% лепшых сыноў і дачок беларуская нацыя пазбавілася беззваротна. І аб гэтым нельга забываць ніколі і нікому.

**Алесь ШУСТОЎСКІ.**

*г.Барысаў.*

***Ён разлучыўся з Бацькаўшчынай не па сваёй волі, нямала перажыў і зведаў. Яму нярэдка даводзіласяісці цяжкімі, пакручастымі сцяжынамі. Шмат сустракаў непаразумення, неапраўданых абвінавачванняў. Але ад гэтага не перастаў любіць родную Беларусь. І калі надарылася магчымасць, праз некалькі дзесяткаў гадоў вярнуўся на яе. Праўда, не назаўсёды. Не такі ўзрост, каб вяртацца назаўсёды. Ды і ў Амерыцы — сям'я, у Амерыцы — сваё жыццё, да якога мусіў прывыкнуць. Тым не менш і на Беларусь вярнуўся назаўсёды. Сваімі творамі. Творамі паэзіі, прозы. Кнігай выбранага і "Масеевай кнігай" — успамінамі, згадкамі, публіцыстычным роздумам. Аб пройдзеных шляхах-дарогах і аб дні сённяшнім.***

***А сёння мы віншуем шаноўнага Масея Ларывонавіча СЯДНЁВА з 85-годдзем! Жадаем яму яшчэ доўгага жыцця і даём мажлівасць чарговы раз сустрэцца з лімаўскім чытачом!***



Масей СЯДНЁЎ

# З "Масеевай кнігі"

## Вечная непрымірымасць

Перада мною — акіян. Дзіўлюся, з якой зацятасцю і паслядоўнасцю наступае ён на зямлю, б'е ў ейныя грудзі. Уздыбленыя хвалі, адна за адной, раз'ятрана кідаюцца на бераг, быццам хочуць узяць яго прыступам. Ды, знясіленыя непадатнай зямлёй, перамоганыя, паміраюць на беразе, разліўшыся ўшырыню празрыстай пенай. Але на гэта не зважае акіян: шле, коціць яшчэ больш магутныя хвалі, яны паўстаюць грознай сцяной - з берага на іх страшна глядзець — і ўсё толькі для таго, каб, дасягнуўшы берага, памерці на ім, як памерлі іхнія папярэднікі.

Зямля спакойна прымае раз'юшанасць хваль, упэўненая ў сваёй непераможнасці. Абураны такім спакоем зямлі, акіян не можа змірыцца з ёй і ўсё больш ускіпае гневам да яе.

А калісьці ж воды акіянаў пакрывалі ўсю паверхню зямлі і яна па сутнасці была дном акіяна. Памятаеце радкі паэта:

***Свет белы, як туманам, дождж замгліў, апошні дзень, нібы тапелец, кануў. Па ўсёй паверхні пераможанай зямлі пайшлі разгневаныя акіяны.***

Але зямлі хапіла аднаго вызваленчага магутнага ўздыху, каб усе акіяны, стрэсеныя ёю са свайго лону, занялі месца, якое яны займаюць сёння.

Толькі не могуць супакоіцца акіяны, хочуць зноў правацца на зямлю: б'юць у ейныя грудзі, лютуюць, дыбяцца, пырскаюць, шумяць, грымяць.

А зямля?

Гэта толькі дзівосная музыка для яе.

## Чалавек і прырода

Уявім сабе такую недарэчнасць: што было б, калі б у Прыродзе не было чалавека? Адзіна магчымым адказам на пытанне было б: не было б самое Прыроды. Яе не было б у нашай свядомасці. Прырода для нас не існавала б. Мы нічога не ведалі б пра Яе. Яна існуе, паколькі мы ёсць у Ёй. Нас жа Прырода не ведае, не ўспрымае, не ўсведамляе - у Яе ж бо няма свядомасці. Ёй усё роўна: ёсць мы ці няма. Ёй мы непатрэбны. Гэта Яна нам патрэбна.

Мы сказалі, Прырода не мае свядомасці, адсюль — Яна не мае і болю, нават калі мы нішчым яе. Гэта толькі ў нас боль за Яе. Прыродзе было б лепей без нас. Але хто тады ўспрымаў бы Яе? Ніхто.

Ды вернемся зноў да пытання: што было б калі б нас не было ў Прыродзе? Дзе б мы тады былі? Адзіна магчымы адказ: нідзе. Гэта значыць, нас не было б наогул. Мы можам быць толькі там, дзе мы ёсць. Мы ёсць у **нашым** свеце — у іншым нас **нельга** ўявіць. У нас няма прарыву — мы заклятыя быць на гэтым свеце. Прырода — гэта і ёсць наш свет. Але мы самі — не Прырода. Калі б мы былі Прыродай, мы зліліся б з Ёю і не былі б здольныя ўспрымаць Яе. Мы выдзеленыя з Прыроды і стаімо над Ёю. Мы ў Ёй пануем. Мы можам нат сказаць: Прырода без нас — Нішто. Але ці можам мы сказаць, што мы самі — нішто? Вось гэтага, на жаль, нам не дадзена спазнаць. Адно толькі пэўна: на працягу ўсёй сваёй гісторыі чалавецтва вядзе няспыннае змаганне, каб сцвердзіць сябе, каб **узняцца** над тым, што "**Нішто**".

## Паказнік даспеласці народа

Паняцце "беларуская літаратура", ці, дакладней, "беларуская савецкая літаратура" — параўнальна новае, гэта прадукт г.зв. ленінскай нацыянальнай палітыкі, і ўзнікла яно на пачатку 20-х гадоў, у часы беларусізацыі. У гэтым часе беларуская савецкая літаратура была ідэалагічнай надбудоўкай над гэтак званым эканамічным базісам. Аднак беларуская савецкая літаратура не была нацыянальнай, адраджэнскай літаратурай. Нацыянальнай яна была толькі па форме, паколькі ствараласа на беларускай мове. Зместам жа яна была сацыялістычнай, савецкай літаратурай. Аднак трэба прызнаць, што беларуская савецкая літаратура ў ролі той "формы" ў нейкай ступені выконвала функцыю нацыянальнага адраджэння, асабліва калі ўзяць на ўвагу факт забароны беларускай мовы ў мінулым. Нацыянальная па форме, беларуская савецкая літаратура 20-х гадоў прагрэсіравала, скажам так, пад "апекай" партыі і ўрада досыць шпарка: яна ўвабрала ў сябе вялікую колькасць маладых, часта таленавітых аўтараў, запачаткавала, можна сказаць, цэлы літаратурны рух, што насіў прыкметы нацыянальнага адраджэння. Здавалася нават, што пачаўся працэс **станаўлення** беларускай літаратуры, як самастойнай нацыянальнай літаратуры. Ды ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў гэты працэс **станаўлення** быў жорстка спынены: беларуская літаратура страціла найбольш таленавітых сваіх аўтараў, носьбітаў нацыянальнай ідэі. З "апекуна" партыя і ўрад ператварыліся ў душыцеля беларускай літаратуры. Засталася марнець савецкая беларуская літаратура са сваімі савецкімі пісьменнікамі. Нават паводле сваёй нацыянальнай формы — мовы — беларуская літаратура пачала блякнуць: гэтак званае спрашчэнне беларускага правапісу збядніла мастакоўскую палітру ці аднаго беларускага аўтара, паколькі новы правапіс выпруціў найбольш арыгінальныя формы беларускай мовы, як у фанэтыцы, гэтак — і найбольш — у сінтаксісе.

Пад "апекай" партыі і ўрада беларуская савецкая літаратура праіснавала аж да перабудовы. Канешне, яна імітавала ўсе плыні і школы, што існавалі ў рускай савецкай літаратуры, ды ў ёй, нацыянальнай па форме, усё ж накапляўся вопыт нацыянальнай літаратуры. Партыйная "апека", паўтараю, абярнулася ў 30-х гадах разгромам беларускай літаратуры, але савецкі эксперымент з беларускай літаратурай меў адно гістарычнае значэнне: ці не ўпершыню ў новай гісторыі заіснавала літаратура беларускага народа — як інстытут, як дысцыпліна. Будучы пад прэсам метаду сацыялістычнага рэалізму, яна не магла, аднак, быць і не была духоўнай спажывай беларускага народа, але фактам свайго існавання яна будзіла думку аб станаўленні сапраўды самастойнай літаратуры беларускага народа.

Сёння беларуская літаратура не мае свайго "апекуна". І — дзякаваць Богу. Але сёння беларуская літаратура ў загоне, у занядбанні, пад пагрозай поўнага заняпаду, а то й неіснавання. Палітычныя абставіны ў Беларусі адціснулі беларускую літаратуру на самы задні план, выключылі яе з жыцця. У Беларусі мае шанцы для свайго развіцця любая літаратура, толькі не беларуская.

Дык што — беларуская самастойная дзяржава без сваёй роднай літаратуры?

Для свайго станаўлення беларуская літаратура патрабуе нічога іншага, а апекуна ў асобе свайго народа. Занядбанне яе, казаў той, смерці падобна. Памятайма: літаратура — гэта таксама паказнік даспеласці народа, адна з прыкмет ягонай самастойнасці.

*ЗША, Глен Коў*



# САЦЫЯЛЬНАЕ СІРОЦТВА — САМАЯ СУР'ЁЗНАЯ ПРАБЛЕМА

Апошнім часам стараюся абавязкова сустракацца ды гутарыць з больш-менш знаёмымі людзьмі, што прыязджаюць з Беларусі ў Амэрыку ў госьці ці з якой дзелавой мэтай. Хочацца паболей дазнацца пра сёньняшняе жыцьцё на бацькаўшчыне, пачуць непасрэдна, што турбуе, трывожыць, непакоіць людзей... Сярод тых, хто быў нядаўна ў Чыкага, — Вольга Балуціна, інспектар па ахове дзяцінства ў Заводзкім раёне Менска.

— Вольга, скажыце, калі ласка, што гэта за пасада ў вас — інспектар па ахове дзяцінства?

— Такая пасада існуе ў аддзеле асьветы адміністрацыі нашага раёна — самага буйнейшага ў беларускай сталіцы. Толькі дзяцей жыве ў нашым раёне больш за 65 тысяч, і розных праблемаў узьнікае штогод усё болей ды болей. Адна з найважнейшых — праблема выхаваньня дзяцей-сіротаў, дзяцей без бацькоў. Дзьве сур'ёзнейшыя прычыны ўплываюць сёньня на яе абвастрэньне: наступствы Чарнобыльскай катастрофы і рэзкае зьніжэньне сацыяльна-эканамічнага ўзроўню жыцьця. Уявіце сабе: сёлета (дадзеныя на чэрвень) у Беларусі жыве 23618 дзяцей-сіротаў, у паўтары разы болей, чым у пасьляваенным 1946 годзе. Хіба не ўзьнікае пытаньне: што-ж за такая жахлівая вайна пракацілася па нашай зямлі ў апошнія гады? Сярод гэтых дзяцей-сіротаў усё больш і больш становіцца так званых сацыяльных сіротаў.

— Раскажыце падрабязьней: каго так называюць — сацыяльныя сіроты?

— Назоў гэтых дзяцей узьнік у адрозьненьне ад праўдзівых сіротаў, тых, у каго бацькі сапраўды памерлі або загінулі. Сацыяльныя сіроты — гэта значыць, што бацькі жывыя, але знаходзяцца ў турме, пазбаўлены бацькоўскіх правоў паводле рашэньня суда або проста п'яніцы, алкаголікі, якія кінулі сваіх дзяцей на волю лёсу. Пераважна гэта дзеці-ахвяры, якія расплочваюцца за чужыя грахі. Наша грамадзтва, занятае ўласнымі клопатамі, сёньня мала ўвагі зьвяртае на іх. Колькасьць дзіцячых дамоў і інтэрнатаў увесь час павялічваецца. І трэба падзякаваць розным дабрачынным арганізацыям і фондам, многім асобам за межамі Беларусі, якія дапамагаюць гэтым установам матэрыяльна.

— Але-ж вельмі важна ня толькі накарміць, але і выхаваць дзіця без бацькоў, ці ня так?

— Так, і гэта — вельмі балючая і актуальная праблема. Сярод тых, хто актыўна ёю займаецца, — Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэньня «Сакавік» пад кіраўніцтвам Марыі Міцкевіч. Я таксама актыўна супрацоўнічаю ў гэтым фондзе. Мэта наша — культурная, выхаваўчая, адукацыйная, сацыяльная. Гэта развіцьцё здольнасьцяў кожнага дзіцяці, шматбаковая дапамога дзецям, падрыхтоўка іх да жыцьця ў грамадзянскай супольнасьці беларусаў ва ўмовах зберажэньня нацыі, яе духоўнага і фізычнага патэнцыялаў. Праграма фонду «Сакавік» так і называецца — "Экалогія душы".

— А што непасрэдна робіцца ў вашым Заводзкім раёне?

— Найпершы наш клопат — хворыя дзеці, колькасьць якіх штогод павялічваецца. У нас працуе спэцыяльная школа-інтэрнат для дзяцей з недахопамі разумовага і фізычнага разьвіцьця. Адчынены дзіцячы садок для дзяцей, якія хворыя на цэрэбральны параліч, працуюць дзьве групы ў дзіцячых садках для дзяцей з парушэньнямі інтэлекту. Нажаль, і ў нас з кожным годам усё болей павялічваецца колькасьць сацыяльных сіротаў. Калі ў 1996 годзе ў раёне бацькі 18 сем'яў былі пазбаўлены сваіх бацькоўскіх правоў, дык у 1997 годзе такіх сем'яў было ўжо 62. У сувязі з гэтым мы нашу школу-інтэрнат, дзе былі дзеці з малазабясьпечаных сем'яў, перапрафілявалі ў інтэрнат для дзяцей-сірот і для дзяцей, што засталіся без бацькоўскай апекі. Разьлічаны такі інтэрнат на 280 дзяцей, але сёньня ў ім знаходзіцца 352 дзіцяці. Мы стараемся дапамагаць так званым апекунскім сем'ям, якіх у раёне 186, дзе выхоўваецца 202 сіроты. Ёсьць у нас і 3 дзіцячыя дамы сямейнага тыпу, гэта значыць, што тры сям'і ўзялі на выхаваньне 22 дзіцяці. Галоўны наш клопат сёньня — арганізацыя ў раёне новага дзіцячага дому на 92 месцы, які мы плянуем адчыніць у верасьні гэтага году. Мы ўжо маем пэўны вопыт супрацоўніцтва з замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі, прынамсі, у арганізацыі адпачынку дзяцей і іх аздараўленьня. Плённа дапамаглі нам дабрачынцы з Італіі, Ірляндыі, Англіі, Нямеччыны. Кожнае лета толькі ў Італіі адпачываюць каля 200 нашых дзяцей. І таму я-б хацела зьвярнуць спецыяльную ўвагу нашых суайчыньнікаў за мяжой і, у прыватнасьці, беларусаў ЗША і Канады менавіта на гэты новы дзіцячы дом, і, па магчымасьці, дапамагчы яму...

— Я ведаю, што ў вас, Вольга, ёсьць і незвычайная асабістая мэта гэтага прыезду ў Амэрыку.

— Так, мне хацелася-б знайсьці магілы маіх дзядулі і бабулі, якія пакінулі радзіму і эміґравалі ў Амэрыку яшчэ ў 1905 годзе. У Дэтройце нарадзілася і мая маці, якая потым вярнулася ў Саюз... Як бачыце, многае ўзаемазвязана, многае пераплялося ў чалавечых лёсах у гэтым адыходзячым стагодзьдзі. Мне здаецца, што для людзей, у якіх адна гістарычная бацькаўшчына, дзе-б яны ні жылі, вельмі важна не парываць узаемасувязяў, як мага падтрымліваць кантакты і дапамагаць адно аднаму, асабліва тым, хто будзе жыць у наступным дваццаць першым стагодзьдзі.

Размову вёў *Ванкарэм Нікіфаровіч.*

# Незабыўная сустрэча

17 - 19 ліпеня сёлета мне пашчасьлівілася быць удзельнікам навукова-практычнай канферэнцыі "Культура і адукацыя беларускага замежжа", якую ладзілі Згуртаваньне Беларусаў свету "Бацькаўшчына" (старшыня Рады ЗБС спадарыня Ганна Сумрач), Беларускі саюз у Польшчы, Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы, Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа". У Беласток прыехала шмат знакамітых людзей - рупліўцаў беларушчыны на ніве культуры і адукацыі, сярод іх спадары Адам Мальдзіс і Галіна Сяргеева, Ганна Сурмач і Радзім Гарэцкі, Генадзь Пяцігор і Уладзімір Арлоў, Анатоль Белы і Лідзія Савік( усіх нават цяжка і пералічыць!) — з Менску, знакаміты бард з Гародні Віктар Шалкевіч, вядомыя дзеячы беларускай дыяспары з Балтыі: Зіна Клыга (Эстонія), Леакадзія Мілаш (Летува), спадар Ул. Валодзька (Даўгаўпілс, Латвія), Генадзь Лех (Масква, Расея), ды спадар Уладзімір Галуза (Навасібірск) , Ігар Шаховец (Кралявец, Расея), шэраг іншых. Не менш знакаміты "бамонд" быў і з польскага боку: Міра Лукша, Яраслаў Іванюк, Валеры Саўко, Пятрусь Юшчук, Ян Заброцкі, Сакрат Яновіч, Яўген Вапа ... Прыемна было бачыць удзельнікам нашае канферэнцыі міністра культуры Польшчы спадарыню Іаанну Внук-Назарову, якая, дарэчы, вельмі прыязна ставіцца да беларускай культуры (на словах ва ўсякім выпадку.)

Два дні прадстаўнікі беларускай дыяспары розных краін маглі паразмаўляць паміж сабой на роднай мове на розныя тэмы, выслухаць шэраг цікавых дакладаў і паведамленняў у зале Беластоцкага ўніверсітэта, дзе праводзілася канферэнцыя. Асабіста на мяне незабыўнае ўражанне аказалі выступы вядомага беларускага пісьменніка з Польшчы Сакрата Яновіча і лідэра БНФ спадара Зянона Пазьняка, які зараз са сваёю жонкаю пражывае ў сталіцы Польшчы Варшаве. Я сфатаграфаваў спадара Пазьняка пад час ягонай прамовы, якая была выслухана з вялікай цікавасцю ўсімі прысутнымі ў зале, і думаю, што беларускім патрыётам — чытачам "Нашага слова" будзе цікава паглядзець, як зараз выглядае Зянон Станіслававіч. На здымку трэці злева — спадар Яўген Вапа — старшыня Беларускага Саюза ў Польшчы, вялікі змагар за правы беларускай меншасці ў Польшчы, і ў прыватнасці, на Беласточчыне.

... Арганізатары канферэнцыі прадумалі для нас цікавую культурную праграму, сярод іншага ў ёй было наведваньне рок-фестываля беларускай песні "Басовішча", якое некалькі гадоў запар ладзіцца ў ваколіцах Гарадка паблізу польска-беларускай мяжы. Менавіта тут, на "Басовішчы", я асабіста ўпершыню слухаў жывымі беларускія гурты "Крама", "Палац", якіх да гэтага часу ведаў толькі на аўдыёкасетах. Прыемна было бачыць, як моладзь танчыць пад беларускамоўны рок з бел-чырвона-белымі сцягамі, і ніхто іх за гэта не збівае і не цягне ў "кутузку"! ..

... У цяжкіх умовах даводзіцца зараз працаваць ЗБС "Бацькаўшчына", але наш Старшыня і Прэзідэнт спадарства Ганна Сумрач і Радзім Гарэцкі робяць усё магчымае, каб мы, беларусы далёкага і бліжняга замежжа, маглі час ад часу сустракацца разам — вялікі дзякуй ім за гэта!

*Пятрусь Капчык,*
*філолаг, сябар Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына",*
*г. Ізяслаў, Украіна.*

---

# Свой храм у Вільні

**Беларусы-каталікі ў Вільні зноў атрымалі свой храм: арцыбіскуп Віленскі Юозас Бацкіс асвяціў нанова касцёл св.Барталамея.**

Віленскія беларусы дамагаліся гэтага дзесяткі гадоў. Нягледзячы на тое, што пры касцёле не будзе афіцыйна зарэгістраванай парафіі, кожны зможа наведаць службу Божую ў гэтым храме, падкрэсліў арцыбіскуп.

Касцёл св.Барталамея пабудаваны ў стылі позняга класіцызму. Пасля вайны на працягу доўгага часу тут размяшчаліся майстэрні скульптараў, і пад храмавымі скляпеннямі спачатку было створанае мноства манументаў савецкага стылю, у тым ліку некалькі дзесяткаў Леніных, а пасля ўзнаўлення незалежнасці Літоўскай дзяржавы майстры заняліся вырабам зусім іншых рэчаў — пераважна касцельных скульптураў для Віленскай катэдры.

Пакуль доўжыліся спрэчкі паміж вернікамі і скульптарамі, якія не хацелі высяляцца з храма, ксёндз Ян Шуткевіч праводзіў службы побач з касцёлам. Цяпер набажэнствы будуць адбывацца як належыць.

*ELTA*

---

*Мікола КАПЫЛОВІЧ* «Народная Воля»

# У сваёй краіне я быццам чужаземец

Так сказаў з горыччу ў душы мне пры сустрэчы адзін мой знаёмы, беларус і патрыёт сваёй краіны. І я з ім поўнасцю пагадзіўся, бо ведаю: няма нідзе ў свеце такой дзяржавы, акрамя Беларусі, такога ў ёй урада і прэзідэнта, дзе не тое, што падтрымліваюць нацыянальную культуру, мову, самасвядомасць і адметнасць свайго народа, а наадварот — насаджаюць манкурцтва, нацыянальны нігілізм, пазбаўляюць людзей гістарычнай памяці. Каб беларусы не ведалі свайго гістарычнага мінулага, не ганарыліся ім. Перарабляюцца школьныя падручнікі на савецкі лад, ухваляецца камуністычны дэспатызм. Да таго ж урадаўцы не ведаюць і не хочуць ведаць мову таго народа, які кормiць іх і поіць... Дайшло да таго, што сам кіраўнік дзяржавы падымае на смех, здзекваецца з мовы таго народа, якім па волі лёсу яму давялося кіраваць.

А пачалося ўсё гэта не сёння і не ўчора. Нашае дзяржаўнае кіраўніцтва (а ці дзяржаўнае?) у справе нацыянальнай палітыкі пераняло ўсё горшае з былога бальшавіцкага, бо амаль кожны цяперашні кіраўнік рэспублікі — былы бальшавіцкі наменклатуршчык высокага рангу. Іх прозвішчы ўсе ведаюць.

Бальшавіцкае кіраўніцтва пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі аж да снежня 1918 г. не ставіла пытанне аб беларускай дзяржаўнасці. Уплывовая групіроўка ў Расійскай камуністычнай партыі, выступаючы з пазіцый "звышінтэрнацыяналізму", недаацэньвала або зусім не звяртала ўвагі на нацыянальнае пытанне. Ахопленай ідэямі сусветнай рэвалюцыі, ёй было не да самавызначэння беларускага ці іншых народаў Расіі. Нават калі ўжо ў краіне ўзніклі пяць савецкіх рэспублік — Беларусь, Украіна, Латвія, Літва і Эстонія, М.Бухарын заявіў на VIII з'ездзе РКП(б) у сакавіку 1919 года, што не разумее гэтай гульні ў самавызначэнне.

Кіраўнікі Заходняй вобласці, і перш за ўсё А.Мяснікоў (армянін), В.Кнорын (латыш), М.Фрунзе (малдаванін), не лічылі беларусаў нацыяй, бачылі ў іх толькі этнаграфічнае адгалінаванне рускага народа. В.Кнорын пісаў пра гэта: "Мы лічылі, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх аддзяляюць ад рускіх, павінны быць зжыты. Нашай задачай з'яўляецца не стварэнне новых нацый, а знішчэнне старых нацыянальных рагатак". Пры гэтым ён зыходзіў з таго, што пасля перамогі савецкай улады палажэнне аб самавызначэнні народаў стала рэакцыйным, накіраваным супраць дыктатуры пралетарыяту. І таму павінна быць адкінута.

Стары лозунг, які цяпер набыў у Беларусі новы змест. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў восенню 1918 г. так званыя пасланнікі Масквы на чале з А.Мясніковавым актыўна выступалі супраць перайменавання Заходняй вобласці, за тое, каб яна засталася адміністрацыйнай адзінкай у складзе РСФСР, каб землі Беларусі былі яе вобласцю.

Пазіцыя бальшавікоў Савецкай Расіі змянілася на карысць самавызначэння толькі ў снежні 1918 г., калі пасля вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі ЦК партыі прыняў рашэнне абвясціць Беларускую Савецкую Рэспубліку. Бо нельга было адмаўляць права на самавызначэнне беларускага народа ў той час, калі ў Прыбалтыцы ўжо стварыліся тры нацыянальныя рэспублікі, калі ўжо існавала Украінская Рэспубліка.

У першым дзяржаўным акце — Маніфесце ад 1 студзеня 1919 г. — не былі вызначаны нацыянальныя інтарэсы новай дзяржавы, як не была зроблена і спасылка на гістарычныя традыцыі беларускай дзяржаўнасці. Замест гэтага бальшавіцкае кіраўніцтва Беларусі выступіла прыхільнікам ідэй і практыкі пралетарскага інтэрнацыяналізму і сусветнай рэвалюцыі. У гэтым дакуменце не адчувалася нацыянальнай прыхільнасці ці нацыянальнай гордасці новых улад у сувязі з адраджэннем беларускай дзяржавы. В.Кнорын з нагоды 10-годдзя абвяшчэння БССР адзначыў: "Згуртаванне беларускіх мас у Беларусі для далейшай барацьбы за сусветную рэвалюцыю, супраць капіталістаў і памешчыкаў — вось першы лозунг і першая задача абвешчанай 1 студзеня 1919 г. БССР".

Беларуская дзяржаўнасць адраджалася ў вельмі складаных умовах. Падзелы Беларусі па Брэсцкім і Рыжскім мірных дагаворах, нямецкая і польская інтэрвенцыі, кароткачасовы тэрмін існавання БНР і БССР, якая самаліквідавалася, увайшоўшы ў склад ЛітБел, аднаўленне БССР у ліпені 1920 г. у складзе шасці паветаў Мінскай вобласці — усе гэтыя знешнепалітычныя фактары пакінулі глыбокія раны ў душы і свядомасці беларусаў, якія хацелі жыць у сваёй нацыянальнай дзяржаве.

Паглядзім, напрыклад, што стала за рашэннем аб утварэнні ЛітБел. Першы Усебеларускі з'езд Саветаў у пачатку лютага 1919 г. пасля месяца існавання БССР выказаўся за далучэнне да РСФСР трох губерняў (Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай) і за аб'яднанне БССР (у складзе Мінскай і часткі Гродзенскай губерняў) з Літвою, за ўтварэнне Літоўска-Беларускай рэспублікі. У гэтым рашэнні, інспіраваным з Масквы, зноў праявіўся нацыянальны нігілізм, ігнараванне гістарычна-этнаграфічных межаў рассялення беларусаў, знявага іх нацыянальнага гонару з боку тагачаснага, як і цяперашняга, беларускага кіраўніцтва. Згода аддаць РСФСР тры беларускія губерні і зліццё з Літвою ў адзінай дзяржаве былі абумоўлены не нацыянальнымі інтарэсамі, а палітычнымі меркаваннямі.

Нацыянальныя інтарэсы, правы і годнасць беларусаў былі ўшчэмлены пры заключэнні Рыжскага дагавора, які быў падпісаны дэлегацыяй РСФСР без прадстаўнікоў Беларусі... Пачуццё крыўды і болю за зняважаную Радзіму, якую падзялілі на дзве часткі, знайшло водгук у творчасці Якуба Коласа:

*Нас падзялілі... Хто? Чужаніцы,*
*Цёмных дарог махляры.*
*К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!*
*Нашы тут гоні, бары!*

Палітыка беларусізацыі ў 20-я гады садзейнічала фарміраванню нацыянальнай свядомасці беларусаў, развіццю беларускай мовы, культуры, традыцый. Але нявопытная знешняя палітыка не змагла выкарыстаць вынікі беларусізацыі, падтрымаць іх на міжнароднай арэне, бо з уваходжаннем БССР у склад СССР знешнепалітычная дзейнасць БССР фактычна спынілася. Знешнія функцыі беларускай дзяржавы перайшлі да Цэнтра, да Масквы. Пачаліся суцэльная русіфікацыя беларусаў, рэпрэсіі і знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі дэспатызмам Сталіна, усеўладдзе Цэнтра.

Пасля вайны Беларусь была прынята ў члены ААН. Здавалася, быццам бы складваліся спрыяльныя ўмовы для знешнепалітычнай дзейнасці беларускага ўрада на карысць беларускай нацыі. Але гэта было толькі палітычнай гульнёй Масквы, да якой была прывязана палітыка Беларусі... "Калі паставіць перад сабою пытанне, чаму менавіта Украіна і Беларусь былі прапанаваны І.Сталіным у склад членаў-заснавальнікаў ААН, — піша беларускі гісторык У.Снапкоўскі, — то для адказу на яго трэба мець на ўвазе не толькі агульнавядомыя вялікія ахвяры і прызнанне ўкладу ўкраінцаў і беларусаў у перамогу над фашызмам. У 50—70-я гады прадстаўнікі беларускай эміграцыі І.Любачка, І.Касяк, В.Кіпель, П.Урбан, заходнія даследчыкі А.Далін, К.Саўчук і іншыя адзначылі, што шлях Беларусі ў ААН пракладваў і беларускі нацыянальны рух, уздым патрыятызму і нацыянальнай гордасці беларускага народа за перамогу над фашысцкімі захопнікамі, а таксама пэўнае развіццё беларушчыны ва ўмовах акупацыі.

Уваход у ААН запатрабаваў хаця б атрыбутнага афармлення дзяржаўнасці БССР. Таму 25 снежня 1951 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіў новы дзяржаўны сцяг БССР, які з невялікімі пераробкамі і цяпер лунае над дзяржаўнымі ўстановамі Беларусі.

Першыя крокі беларускай дыпламатыі нібыта адпавядалі нацыянальным інтарэсам народа. Першае выступленне дэлегацыі на канферэнцыі ААН 21 мая 1945 г. сведчыла аб жаданні прадстаўнікоў рэспублікі выступаць на роднай мове. Прамоўца акадэмік І.Перцаў сказаў у пачатку свайго выступлення: "Я желал бы выступить на языке того государства, представителем которого я являюсь, но за отсутствием переводчика, который мог бы перевести мое выступление с белорусского языка на языки английский и французский, мне приходится выступать на русском языке". Такім чынам, тэхнічная дэталь — адсутнасць перакладчыка — не дазволіла беларускай дэлегацыі рабіць выступленні на міжнароднай канферэнцыі на роднай мове народа, прадстаўнікамі якога яна лічылася. Але ж прычына была не ў перакладчыку (ён хутка знайшоўся б), а ў негатыўным стаўленні беларускіх дэлегатаў да беларускай мовы, у вельмі нізкім узроўні іх нацыянальнай свядомасці. Кіраўнік дэлегацыі, міністр замежных спраў БССР у 1944—1965 гг. К.Кісялёў лічыў сябе рускім па паходжанні і на афіцыйным узроўні не мог сказаць на беларускай мове нават тост. Наогул, на працягу 40—80-х гадоў прадстаўнікі БССР на міжнароднай арэне амаль што не гаварылі на роднай мове. А калі спрабавалі гэта рабіць, дык пад прымусам.

М.Хрушчоў пісаў у мемуарах, што ў час 15-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1960 годзе ён прапанаваў кіраўнікам украінскай і беларускай дэлегацый (М.Падгорнаму і К.Мазураву) зрабіць свае выступленні на родных мовах. Украінская дэлегацыя адразу пагадзілася з такой прапановаю-загадам і падрыхтавала. прамову на ўкраінскай мове. А Мазураў сказаў, што ў дэлегацыі няма машынкі з беларускім шрыфтам, што цяжка зрабіць пераклад з рускай на беларускую мову. Важкая прычына! Вось такія адносіны да роднай мовы былі ў кіраўнікоў БССР, беларускіх дыпламатаў.

Беларусы па нацыянальнасці сярод кіруючай эліты БССР не сталі беларусамі па свядомасці. І ўсё ж сталінскі рэжым асцерагаўся вылучаць беларусаў на кіруючыя пасады ў рэспубліцы, разглядаючы іх як патэнцыяльных "нацыяналістаў". Уздым беларускага нацыянальнага руху ў часы нямецкай акупацыі прымусіў у першыя пасляваенныя гады Маскву прыняць жорсткія меры супраць беларушчыны.

Пачалася новая хваля русіфікацыі. Да канца 1948 года,

як адзначае беларускі гісторык, старшы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, усе беларускія камуністы страцілі свае кіруючыя пазіцыі і былі заменены рускімі. У 1951 годзе сярод 33 членаў урада БССР было 22 рускіх, 1 яўрэй,\2 грузіны і... 8 беларусаў.

Беларусь апынулася ў ААН даволі выпадкова і нечакана для сябе. Яна выконвала не вельмі ўдзячную ролю "дадатковага голасу" СССР. І заўсёды ішла ўслед за дэлегацыяй СССР. Іншага шляху для сваёй рэспублікі прадстаўнікі БССР не ўяўлялі. Некаторыя з іх не хацелі нават фармальнага аддзялення БССР ад СССР па алфавітным прынцыпе. Згаданы вышэй У.Перцаў, рускі па нацыянальнасці, адразу пасля прыбыцця дэлегацыі БССР у Сан-Францыска пры аглядзе адведзеных беларускай дэлегацыі месцаў у зале пасяджэнняў канферэнцыі 8 мая 1945 года запатрабаваў, каб шыльду Беларускай ССР паставілі побач з шыльдай Савецкага Саюза, а не па алфавіце. Ён абвінаваціў сакратарыят канферэнцыі ў тым, што быццам беларускую дэлегацыю свядома хочуць аддзяліць ад дэлегацыі СССР.

На працягу 40—80-х гадоў знешняя палітыка БССР знаходзілася ў фарватары знешняй палітыкі Савецкага Саюза. Яна амаль не адпавядала нацыянальным інтарэсам Беларусі. У выступленнях прадстаўнікоў БССР на форумах ААН не закраналіся праблемы выжывання беларускай нацыі, яе культуры і мовы. Беларускія дыпламаты змагаліся за мір ва ўсім свеце, за ўрэгуляванне канфліктаў у далёкіх Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, але ніколі не выступалі за свае беларускія інтарэсы, не білі ў званы перад сусветным супольствам пра цяжкае становішча беларускага этнасу, яго нацыянальнай мовы, пра іх паступовы заняпад. У тым, што цяпер Беларусь кепска ведаюць у свеце, ёсць вялікая віна знешнепалітычнага кіраўніцтва БССР. У сваіх прамовах прадстаўнікі БССР пазбягалі экскурсаў у беларускую гісторыю, абмяжоўваючы яе савецкім перыядам. Любімай гістарычнай тэмай была толькі Вялікая Айчынная вайна. Пры гэтым, як правіла, казалі пра южнага чацвёртага забітага жыхара Беларусі і рабілі высновы, што беларускі народ вельмі зацікаўлены ў захаванні міру.

Адным з рэдкіх прыкладаў звароту да беларускай гісторыі была першая прэс-канферэнцыя наркома замежных спраў БССР К.Кісялёва, якая адбылася ў маі 1945 г. у Сан-Францыска. Але ён, зыходзячы з догмаў тагачаснай гісторыяграфіі, даў скажоную карціну гістарычнага мінулага Беларусі. Нічога не было сказана пра дзяржаўнасць беларусаў, існаванне ВКЛ, толькі нядобрымі словамі згадваліся літоўскія і польскія феадалы ды праслаўлялася дружба народаў СССР. Такія выступленні не спрыялі, а перашкаджалі фарміраванню нацыянальнай свядомасці беларусаў, давалі свету няправільнае ўяўленне пра Беларусь.

Адсутнасць незалежнай і самастойнай палітыкі як важнейшага элементу дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі была моцным фактарам нацыянальнага нігілізму беларусаў. Зрухі ў яго пераадоленні, фарміраванні аснoў незалежнай палітыкі Беларусі пачалі адбывацца з 1990 года, калі была абвешчана Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі і калі ў жніўні 1991 года беларускі народ прыступіў да стварэння Беларускай дзяржавы.

Але гэта працягвалася нядоўга. Пасля двух рэферэндумаў, калі ў краіне была адменена нацыянальная сімволіка, паніжана ў статусе нацыянальная мова, пачалі зачыняцца беларускамоўныя школы, Беларусь зноў вярнулі да нацыянальнай палітыкі камуністычнага часу. Прэзідэнт і ўрад зноў павялі краіну ў фарватары знешняй палітыкі Масквы. З прадстаўніцтва Беларусі ў ААН былі адкліканы і звольнены дыпламаты, якія там клапаціліся пра аўтарытэт сваёй краіны, выступалі на пасяджэннях ААН на роднай мове, заклікалі сусветнае супольніцтва аказваць дапамогу ў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у час якой пацярпела амаль палова беларускага насельніцтва.

Замест нацыянальных па духу дыпламатаў у ААН былі накіраваны рускамоўныя прадстаўнікі, якія больш адстойваюць не беларускія знешнепалітычныя, а расійскія інтарэсы. Кола замкнулася на камуністычным перыядзе. Колішнім па часе, але сучасным па сэнсе...

— У сваёй краіне я быццам чужаземец, — зноў прыгадваю словы свайго добрага знаёмага. — Нават на рабоце няма з кім родным словам перакінуцца. Манкуртызацыя!

У такім выпадку мне ў галаву прыходзяць словы з адной Андэрсенавай казкі, якая пачынаецца ёмкім сказам: "У Кітаі ўсе кітайцы, нават імператар кітаец".

А ў нашай Беларусі?..





## АДОЗВА — ПРОСЬБА...

### Дарагія суродзічы, людзі добрае волі!

Беларускі музэй у Гайнаўцы, будаўніцтва якога трывае ўжо каля 12 гадоў, патрабуе грашовае дапамогі на заканчэньне яго. Ужо шмат зроблена: стаіць вялікі, хоць яшчэ і ня поўнасьцю выканчаны, будынак; сабрана вялізарная колькасьць цікавых экспанатаў, якія выдатна прадстаўляюць беларускую культуру Беласточчыны. Але каб усё давесьці да канчальнага ладу, патрэбны дадатковыя сродкі.

Разумеючы патрэбу такое дапамогі на завяршальным этапе будаўніцтва, гатовасьць правесьці акцыю збору аднаразовых ахвяраваньняў выказала група самаахвярных суродзічаў. Да іх належаць спсп. Натальля і Анатоль Лук'янчукі, Тацьцяна Кананчук, Оля Дубаневіч, Надзя і Янка Запруднікі, Вера і Праньціс Бартулі, Ірэна Каляда-Сьмірноў, Аляксандар Сільвановіч, Нікадэм Жызьнеўскі, Міхась Каленік, Лёля Міхалюк і іншыя.

Акцыя збору праводзіцца па ўсіх краінах сьвету, у тым ліку ў Польшчы, Прыбалтыцы, Расеі, Украіне, а таксама ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Англіі, Бельгіі ды ўсюды, дзе жывуць беларусы і іхныя прыхільнікі.

Найменшая ахвяра будзе прыймацца з вялікаю удзячнасьцю. Беларускі музэй ў Гайнаўцы мусіць стаць агульнай справаю беларусаў усяго сьвету. Музэй гэты, калі ён адчыніць шырока свае дзьверы для наведнікаў, будзе трывалым паказам багатай гістарычна-культурнай спадчыны беларусаў Беласточчыны ды выдатным сьведчаньнем нашай вернасьці сваім традыцыям.

Усіх нас чакае цяжкая і няўдзячная праца, але яе трэба выканаць, правесьці ўдала і самаахвярна. У зборы ахвяраў трэба зварочвацца да людзей уваўсіх краінах сьвету, і ня толькі беларусаў, але і іх прыяцеляў, суседзяў, знаёмых, дзяцей і ўнукаў. У гэтую акцыю трэба ўлучыць людзей розных нацыянальнасьцяў, пераканаными і наагул усіх добразычліўцаў.

Дык-жа паспрыяем заканчэньню Беларускага музэю ў Гайнаўцы сваімі пасільнымі ахвяраваньнямі, сваім укладам у справу, каб жыла Беларусь.

Падпісныя лісты з ахвярамі просім перасылаць на адрас "Беларускага Дайджэсту". Прозьвішчы ахвярадаўцаў будуць апублікаваныя ў нашай газэце.

Дык у добры час, з Божай дапамогай, да працы!

Дзякуем за супрацоўніцтва!



Старыя сялянскія прылады.



Адзін з відаў незаканчанага будынку музэя.

## APPEAL

### Dear Lovers of Belarus and Belarusian culture!

Belarusians in Poland, first of all those living in the region of Belastok, have been working hard for 12 years to build a museum in the town of Hajnauka that would be representative of Belarusian culture of the region and serve as a center of cultural activity. Much has been done in the past years: many unique exhibits have been assembled and a spacious building stands almost ready to house them. However, funds are still needed to complete the project. To speed things up, a group of distinguished Americans, Canadians, Australians and others, whose roots are in Belarus, as well as Belarusians in Poland, Baltic States, Russia, and elsewhere, expressed their willingness to contribute to the completion of the Hajnauka museum.

You are kindly invited to join their ranks with a donation. Contributions are badly needed because without outside help the process of finishing the job will drag on seriously hurting the cause of preservation of Belarusian culture in Poland. No matter how small, your donation will be received with genuine appreciation and your name will be published in our newspaper.

Please be responsive and generous. Your generosity will find many grateful recepients who will enjoy visiting the Belarusian museum in Hajnauka.

Thank you and God bless you!

Sincerely,

"Belarusian Digest"
c/o N. Prusky
1086 Forest Hill, SE.
Grand Rapids, MI 49546
USA.

# Дапаможам закончыць будову Беларускага Музэю ў Гайнаўцы на Беласточчыне





IN MEMORIAM

СЬВ. † ПАМЯЦІ

# ЛЕАНІД ЛІТАРОВІЧ

16.08. 1928 — 12. 08. 1998



У Саўт-Рывэры, дзе ён жыў, Лёню Літаровіча ўсе ведалі як чалавека самаахвярна аддадзенага справе будаўніцтва і ўтрымоўваньня беларускага рэлігійнага і грамадзкага асяродку. На працягу больш як сарака гадоў ён быў у самым цэнтры саўтрывэрскае грамады, якая, пачаўшы зь нічога, здолела пабудаваць трывалы цэнтар царкоўнага і культурнага жыцьця. Энтузіяст і патрыёт. Лёня Літаровіч быў усюды, дзе патрабаваліся і гарачае сэрца, і практычны розум, і цяжкая праца. Ён быў адданым прыхаджанінам і руплівым працаўніком парафіі імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Як добры гаспадар, ён пра ўсё дбаў, пра ўсё стараўся — ці гэта была справа закупу сьвечак, ці набыцьця мэблі, ці рамонту, ці пабудовы новае царквы. Ён плянаваў, ён праймаўся, ён пакладаў свае сілы і ўласныя грошы, абы толькі мацавалася ды йшла наперад рэлігійная і грамадзкая справа. На працягу свае 25-гадовае працы ў ролі скарбніка парафіі Лёня Літаровіч ня толькі рупіўся аб папаўненьні касы прыходу, але заўсёды аплачваў безьліч царкоўных выдаткаў сваімі ўласнымі грашыма.

Унікальная роля Лёні была ў засаджэньні прыцаркоўнага пляцу ля новае царквы Сьв. Еўфрасіньні памяткавымі дрэвамі, што разрасьліся ў невялікі парк. Там традыцыйна ладзяцца цяпер пікнікі і іншыя ўрачыстасьці. Парк гэты, на добры лад, заслугоўвае быць названым імём Леаніда Літаровіча. Такое найменаваньне было-б адпаведнай формай удзячнасьці парафіянаў за шматгадовую нястомную працу аднаму з заслужаных падзьвіжнікаў рэлігійна-грамадзкае працы ў Саўт-Рывэры. Пры жыцьці Лёня не патрабаваў і не разьлічваў на ніякія падзякі. Яму, самаахвярнаму і сьціпламу, найлепшай падзякай было ўсьведамленьне выкананага грамадзкага абавязку. У ягонай асобе мы маем яркі прыклад чалавека ня толькі патрыятычнага, але і глыбака маральнага, запраўднага хрысьціяніна і добрага беларуса. Вобраз такога чалавека заслугоўвае на ўшанаваньне праз беражлівае перахоўваньне памяці пра яго як спосабу маральнага падтрыманьня тых, хто ідзе ягоным сьледам.

Глыбокая хрысьціянская маральнасьць разам зь беларускім патрыятызмам уласьцівыя ўсёй сям'і Літаровічаў. У гэтай сям'і часта атрымвалі дапамогу, начлег і харчы людзі зь Беларусі, калі дачакаліся магчымасьці наведаць Амэрыку. Лёня з жонкай Лізай вельмі часта гасьцінна адчынялі дзьверы беларускім артыстам, мастакам ці проста суродзічам, якім даводзілася трапляць у Амэрыку. У доме Літаровічаў яны знаходзілі і начлег, і харчы, і падарункі, і грашовую падтрымку. Жыцьцё Лёні ўсюды суправаджалася дабрасардэчнай шчодрасьцю ў дачыненьні да кожнага чалавека. Гэтую якасьць характару яго вельмі трапна адзначыў ягоны зяць Кен Моэн за памінальным сталом у дзень паховін. Кен — чалавек не шматмоўны, які ня лёгка паддаецца эмоцыям. Але ён ня мог устрымацца, каб не сказаць пра Лёню прачулена, красамоўна і праўдзіва: "Лёня быў больш, чым адмысловым. Ён быў чалавекам, якога сустракаеш раз на тысячагодзьдзе або чытаеш пра такіх у кнізе ці часопісе. Наколькі мы былі шчасьлівыя, што ён жыў сярод нас і сваім жыцьцём дакранаўся да ўсіх нас, што ў гэтай залі. Лёня спрыяў выяўленьню нашых найшляхотнейшых імкненьняў. І я заклікаю вас рабіць штодня найлепшае, як гэта рабіў-бы ён. Калі-б кожны з нас пражыў хоць частку свайго жыцьця як гэта рабіў ён, наколькі лепш мы меліся-б".

Сьв. пам. Леанід Літаровіч нарадзіўся ў вёсцы Боркі на Барысаўшчыне. Цудоўная беларуская прырода залажыла ў ягоную душу любасьць да наваколься і да роднага краю, а найбольш да людзей. Вайна закінула сям'ю Лёні ў Нямеччыну. Там Літаровічы, у тым ліку бацькі, сястра Марыя ды браты Віктар і Ўладзімір, жылі ў лягерох для "перамешчаных асобаў", бралі ўдзел у беларускім арганізацыйным жыцьці. На пачатку 1950-х гадоў сям'я эміґравала ў Злучаныя Штаты, пасяліўшыся ў Саўт-Рывэры. Тут Лёня і пражыў найбольшую частку свайго плённага жыцьця.

Амэрыка сталася яму другой бацькаўшчынай, якую ён шанаваў і якой быў бясконца ўдзячны. Тут застаўся і род ягонае замужняе дачкі Лены Моэн з дзьвюма дачушкамі і жанатага сына Івана з сынком. У асобах жонкі Лізы і дзяцей з унукамі жыве сьветлая памяць пра Лёню Літаровіча, у вобразе якога мы ўсе маем дастойны прыклад вялікага хрысьціяніна і вернага сына Беларусі.

*Янка Запруднік*

# Нябачныя "тройкі" і "двойкі"

«НАРОДНАЯ ВОЛЯ»

Восеннню сорак трэцяга года адзін з партызанаў, якія з вясны днявалі і начавалі ў нашай глыбіннай вёсачцы, апрануўшы форму нямецкага салдата выйшаў сярод белага дня на шашу "варшаўку" і завярнуў на прасёлачную дарогу дзве падводы з бежанцамі, якія ехалі ў бок Слуцка, і разам з імі вярнуўся назад. Падводы загналі ў двор нашага суседа Стэфана, у хаце якога знаходзіліся партызанскія камандзіры. На вазах, акрамя двух мужчын сталага ўзросту, сядзелі іх жонкі і малыя дзеці. Мужчынамі зацікавіўся прадстаўнік партызанскага асобага аддзела. Аб чым ішла гутарка — засталося тайнай і для гаспадара хаты, і для радавых партызан.

Надвячоркам міма нашай хаты, насупраць якой на лаўцы сядзелі суседскія мужчыны і хлапчукі, у бок недалёкага лесу пракрочылі трое партызан і тыя два "палонныя". Мінут праз дзесяць адтуль данесліся дзве ці тры чаргі з аўтамата ППШ. А назаўтра раніцой мой дзядуля Якуб, якому прыйшла чарга пасвіць кароў, пагнаў іх да лесу і ўзбоч прагонніцы, на голым пасля ўборкі бульбяным полі, ўбачыў два акрываўленыя, прашытыя кулямі трупы, зусім голыя — у чым маці нарадзіла. Дзядуля вярнуўся, паведаў аб убачаным майму бацьку, і яны удваіх закапалі нябожчыкаў на месцы іх гібелі.

Ні для каго не было сакрэтам, што злачынства ўчыніла тая "тройка" па наводцы асабіста. Праўда, партызаны пусцілі па вёсцы чутку, што расстраляныя былі альбо паліцаямі, альбо людзьмі "неблаганадзейнымі", бо, маўляў, нішто на павозцы проста так на захад не паехаў бы. Вось і ўсе аргументы.

Ужо ў гады перабудовы я спытаў аднаго з той "тройкі", радавога партызана, за што яны расстралялі тых дваіх. Ён паўтарыў даўнюю пагалосіцу сваіх сяброў па зброі, хоць засведчыў, што на вазах не знайшлі ні зброі, ні іншых кампраметуючых іх як нямецкіх служак прадметаў. Мужчыны сцвярджалі, што іх вёску нямецкае камандаванне высяліла прымусова з прыфрантавой паласы, калі савецкія войскі падышлі да Дняпра і Беразіны ўшчыльную. Ад нашай вёскі туды — крыху больш за сто кіламетраў. Яшчэ партызан той дадаў, што канваіруемыя імі людзі, маўляў, зрабілі спробу ўцячы ад іх. У гэта я не паверыў, таму як з трупаў канвойныя не сталі б знімаць акрываўленае адзенне, абутак. Хутчэй за ўсё спярша загадалі распранууца дагала, а потым націснулі на куркі ППШ. Адзенне і боты ўзялі ў якасці трафея. Жонак нябожчыкаў з дзецьмі партызаны адпусцілі, нічога не сказаўшы ім пра лёс іх мужоў.

Яшчэ раней, у жніўні 43-га года, такім жа макарам партызанскія асабісты, людзі невядомыя для большасці вяскоўцаў, западозрылі ў "шпіянажы" 52-гадовага жыхара нашай вёскі Аніську Сінькевіча. Ён павёў у размешчаную за "казённым" лесам вёску дзесяцігадовага пляменніка, які гасцяваў у яго і папрасіўся дамоў. У лясной вёсачцы Таліца Аніську партызаны затрымалі. Дамоў ён ужо не вярнуўся, хоць хлопчык сам дайшоў праз лес да сваёй вёскі і паведаў аб тым здарэнні. Мусіць, не прыняў у разлік асабіст прызнанняў Аніські, што адзін сын яго, Іван, на фронце, у дзеючай арміі, другі, Алесь, збіраецца да партызан. Прыйдзі ён у нашу вёску — і сяльчане далі б самую станоўчую характарыстыку дзядзьку Аніську.

Яго труп таліцкія грыбнікі знайшлі тыдні праз два ці тры ў глыбіні лесу пад ялінай. Там жа і закапалі, нават з-за страху не пасмеўшы перадаць старэйшаму сыну Аніські — Юрку, дзе знаходзіцца месца пахавання бацькі. Кожны памятаў добра 1937 год і яго трагічныя наступствы для мільёнаў невінаватых людзей. Не сакрэт, што некаторыя выканаўцы тых злачынных актаў у вайну прымкнулі да партызан, каб і далей выкшукваць "ворагаў народа" і пускаць іх на распыл.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

**Пратэст**

# Не проста моўнае пытанне

Паявіліся звесткі, што ўлады рыхтуюць правядзенне перапісу насельніцтва Беларусі. У перапісным лісце сярод іншых пытанняў будзе і моўнае, сфармуляванае прыкладна так: на якой мове Вы размаўляеце дома?

Па маім меркаванні, такая, з выгляду бяскрыўдная, фармулёўка прыдумана дзеля таго, каб пераканаць беларусаў, што ў іх няма сваёй мовы, што яны адвярнуліся ад яе. Бо, практычна выціснутая амаль з усіх сфер жыцця, яна гучыць далёка не ва ўсіх сем'ях. А раз так, значыць, яе і не трэба, гэта — анахранізм і г.д. Даеш адзіную рускую!

Разам з тым, наколькі вядома, у перапісны ліст не ўключаецца пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці асобы. Навошта ўладам ведаць, колькі зараз на нашай зямлі беларусаў? Мы ж — "савецкі" народ. "Мы же — русские", як заяўляе галава нашай дзяржавы.

Ды і дзе зараз знайсці таго беларуса: у пашпартных даных яго няма, на гарадскіх і мястэчковых вуліцах не чуваць яго гамонкі, у навучальных установах і дзяржаўных канцылярыях, у парламенце і Адміністрацыі прэзідэнта — тым больш.

Колькі тут уладнага цынізму і дзяржаўнай бессаромнасці! Вякамі адкрыта і нахабна — сякерай, дубінай, прымусам, здзекам, маной калечылі жывое цела нацыі, а зараз у апраўданне духоўнага генацыду "міла" тлумачаць: "ведь так сложилось", "декретами говорить по-белорусски не заставишь". Затое прымусіць беларуса забыць, што ён беларус, — тут у "тлумачальнікаў" праблем амаль няма.

Вось і выходзіць: спецыфічнае моўнае пытанне перарастае ў пытанне жыцця і смерці майго народа, дзяржавы, іх будучыні.

Хацелася б ведаць, якімі нацыянальнымі прыкметамі адрозніваецца зараз незалежная Беларусь ад "Северо-Западного края", а яе цяперашняе кіраўніцтва — ад адміністрацыі царскага генерала Мураўёва?

**В.СКАРАХОД, пенсіянер.**
Мінск.

# Епіскапу далі тры гады

**Епіскап Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Пётр Гушча прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.**

Працэс, які праходзіў у судзе Савецкага раёна г.Мінска, па рашэнні суддзі быў закрыты для грамадскасці і журналістаў, паколькі ў справе фігуравалі непаўналетнія. Пётр Гушча абвінавачваўся ва ўчыненні злоснага хуліганства, учыненага з асобай дзёрзкасцю і цынізмам. Яго злачынства, па матэрыялах следства, заключалася ў тым, што ён учыняў у двары аднаго з дамоў па Лагойскім тракце распусныя дзеянні ў дачыненні да дзвюх дзяўчынак — 8 і 10 гадоў. Сам падсудны цалкам адмаўляў сваю віну, аб чым заявіў падчас судовага разбору і ў апошнім слове. Ён заявіў, што супраць яго здзейснена правакацыя як супраць епіскапа Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, абвінавачваў сведак у сказжэннях і няпраўдзе.

*...Прашу Вас, дарагія суайчыннікі, не верце нашым непрыяцелям, бо яны на тое і непрыяцелі, каб зганьбіць і знішчыць беларускі нацыянальны рух. Гэта галоўная іх мэта.*

**Найменшы з рабоў Божых уладыка Пётр (ГУШЧА).**